# Голас Радзімы

ШТОТЫДНЁВАЯ ГАЗЕТА ДЛЯ СУАЙЧЫННІКАЎ ЗА МЕЖАМІ БАЦЬКАЎШЧЫНЫ

№50 (2556)

11 снежня 1997 г.
Выдаецца з 1955 г.
Цана 1 000 рублёў.


***ЮБІЛЕЙ***

## ГЭТАГА ВЕЛЬМІ ДОЎГА ЧАКАЛІ. МОЖА, 600 ГОД

Вечарам 29 лістапада ў зале мінскага Тэатра музычнай камедыі знайсці хоць адно свабоднае крэсла было немагчыма. Прыўзняты настрой, што суседнічаў са спакойнай годнасцю, ствараў тую святочную аўру, што нябачна ахутвала прысутных: татары ўрачыста адзначалі 600-годдзе пасялення на землях Беларусі. Адказнасць моманту адчувалі ўсе ўдзельнікі сходу: і паважныя старыя, і вёрткая, цікаўная дзятва. Можа, таму, што, як сказаў пажылы мінчанін з ордэнскімі планкамі на грудзях, былы вайсковец Фазым Нугуманаў: "Гэтага вельмі доўга чакалі". Чакалі, вядома, не толькі юбілейных урачыстасцей, у першую чаргу — прызнання на самым высокім узроўні несумненных заслуг народа ў жыцці краіны, што стала для многіх пакаленняў татар не другой радзімай, а проста — Радзімай. Нездарма пасол Турцыі Тансу Окандан так і сказаў: "Да беларускіх татар зусім не падыходзіць слова "дыяспара" ці паняцце "нацыянальная меншасць", яны — самыя што ні на ёсць сапраўдныя, карэнныя жыхары зямлі беларускай". Што ж, збоку заўсёды лепш відаць. Ды ніхто, уласна, і не збіраецца спрачацца з паважаным спадаром паслом, таму што яго словы абсалютна справядлівыя.

Многія ў той вечар прыйшлі ў тэатр разам з дзецьмі: няхай глядзяць, слухаюць — ім жа працягваць далей няпростую справу адраджэння. Цяжка сказаць, ці ўсе, хто сядзеў у той дзень у




**НА ЗДЫМКУ: адкрыццё ўрачыстага сходу. Віцэ-прэм'ер урада У. ЗАМЯТАЛІН зачытвае прывітанне Прэзідэнта А. ЛУКАШЭНКІ.**


**(Заканчэнне на 3-й стар.).**


ПІСЬМЕННІЦКІ І ЧАЛАВЕЧЫ ТАЛЕНТ АЛЕНЫ ВАСІЛЕВІЧ

## ДУШЫ ВЫСОКАЯ СВАБОДА...

Люблю гэты Талент. Светлы, ясны, мудры. Пісьменніцкі і чалавечы. Чалавечы і пісьменніцкі.

Алена Васілевіч... Адметнае пяро, якому аднолькава падуладныя проза, эсэістыка, публіцыстыка, крытыка, мастацкі пераклад.

Заслужаны работнік культуры. Лаўрэат Дзяржаўнай прэміі Беларусі.

...Гэтым годам спаўняецца 50 год творчай дзейнасці, творчай працы Алены Васілевіч. З часу выхаду першага нумара часопіса "Беларусь" за 1947-мы год, дзе была змешчана яе аповесць "У прасторах жыцця". Паўвека яна член Саюза пісьменнікаў Беларусі. Паўвека яе чытаюць і перачытваюць. Дарослыя і дзеці. На Беларусі і за яе межамі.

Творы Алены Васілевіч перакладзены на рускую, англійскую, польскую, балгарскую, літоўскую, латышскую, малдаўскую, армянскую, азербайджанскую, кіргізскую, казахскую, нават на персідскую і мангольскую мовы.

Кнігі, альманахі, часопісы, штотыднёвікі, газеты, календары, дзе надрукавана створанае Аленай Васілевіч... У біябібліяграфічным слоўніку — некалькі старонак толькі пераліку яе твораў і напісанага пра яе.

...Тэтралогія "Пачакай, затрымайся..." — аповед пра дзяцінства і юнацтва чалавека яе пакалення, пра Ганьку, пра мары маладосці, пра каханне, пра незабыўнае свята раніцы жыцця. Чатыры аўтабіяграфічныя аповесці, напісаныя на адным дыханні, лірычныя і мудрыя, падсвечаныя лёгкім гумарам і ironіяй... Тым, чым вызначаны і адметны пісьменніцкі почырк Алены Васілевіч. Яе спосаб успрымання свету, яе непадробны стыль, яе мова з мноствам трапных слоўцаў: з яе роднай Случчыны.

Усё гэта — размаіта, па-рознаму выяўлена ў яе аповесцях, апавяданнях, лірычных замалёўках,



эсэ. Цяжка нават канкрэтызаваць, калі выкарыстаць лексіку нарматыўнага літаратуразнаўства, тэматыку і праблематыку яе твораў. Можна толькі адзначыць выдатнае веданне чалавечых характараў, тонкую нюансіроўку жаночай і мужчынскай псіхалогіі, уменне выявіць яркі сюжэт там, дзе іншыя нічога цікавага не здолелі б пабачыць. Урэшце — майстэрства кампазіцыйнай пабудовы, адразу пазнавальная яе інтанацыя. Алена Васілевіч пісала і піша пра дзень сённяшні і ўчарашні, найбольш — пра інтэлігенцыю, гараджан (для беларускіх літаратараў яе пакалення звычай не часты), аднак умее сказаць пра вяскоўца: важка, мудра, глыбока, з веданнем псіхалогіі і канкрэтных рэалій.


**(Заканчэнне на 6-й стар.).**


***ПАЛЕМІКА***

## ПОШУК ІСЦІНЫ ЦІ ШАЛЬМАВАННЕ?

Пачну са з'едлівай фразы, якой У. Казбярук падкрэслівае асаблівае шчыраванне з майго боку ў крытыцы ягонага артыкула "Маякі і міражы", апублікаванага, дарэчы, не 22 лютага, а 7 снежня 1990 года. Са слоў аўтара вынікае, што на гэты артыкул я адгукнуўся ажно чатырма. Відавочнае перабольшанне, бо я ў сувязі з названай публікацыяй напісаў і здаў у "ЛіМ" адзін артыкул "Хай народзіцца ісціна". Аднак у друк трапіла з яго толькі прыблізна трэцяя частка, непараўнальна меншая па аб'ёму, чым "Маякі і міражы", для якіх рэдакцыя не пашкадавала амаль дзвюх цэлых палосаў. У выніку шэраг пасажаў У. Казберука застаўся ў "ЛіМе" без адказу. Гэта прымусіла мяне звярнуцца ў "Настаўніцкую газету", дзе рэшта рукапісу з тлумачэннем здарэння была апублікавана ў трох нумарах пад назвай "У крывым люстэрку". Дзіўна, што У. Казбярук не заўважыў дадзенага тлумачэння і так перабольшыў маё "шчыраванне" ў палеміцы з ім. Праўда, да гэтых пытанняў я звярнуўся яшчэ раз у гістарыяграфічнай частцы артыкула "Нацыянальнае і аграрнае пытанні ў час паўстання 1863—1864 гг.". ("Беларускі гістарычны часопіс". 1993. № 3), на які не раз спасылаецца У. Казбярук.

У артыкуле "Хай народзіцца ісціна..." (ЛіМ, 22.02.1991) я цалкам пагадзіўся з зыходным пастулатам У. Казберука: народу не патрэбны фальшывыя маякі і міражы — ні сучасныя, ні з далёкай гісторыі. Як вядома, у савецкія часы стварэнне такіх "маякоў" і міражоў было пастаўлена на паток. Таму работы па высвятленні "хто ёсць хто" ў гісторыі Беларусі было і застаецца яшчэ нямала. Здзівілі, праўда, выбар персанажаў для "дэідэалізацыі" (В. Дунін-Марцінкевіч і К. Каліноўскі) і метады пошуку ісціны, выкарыстаныя ў артыкуле У. Казберука. Сапраўднымі маякамі ў гісторыі беларускага нацыянальнага адраджэння XIX стагоддзя, на яго думку, з'яўляюцца толькі Ф. Багушэвіч і Ян Чачот.

Наконт Дуніна-Марцінкевіча шаноўны літаратуразнавец у "Маяках і міражах" заявіў, што "пры ўсім сваім дэмакратызме ён быў вельмі і вельмі далёкі ад усведамлення неабвержнай (?!) нацыянальнай самабытнасці і адметнасці беларусаў дый рэальных патрэб беларускага прыгоннага селяніна". У дачыненні да гэтага пісьменніка заклікаў кіравацца вядомымі крытычнымі заўвагамі, выказанымі ў яго адрас Ф. Багушэвічам і Я. Купалам, і папракнуў даследчыкаў, быццам яны баяцца сказаць праўду пра Дуніна-Марцінкевіча, каб не запляміць "аўтарытэт аднаго з найбуйнейшых і найбольш заслужаных пісьменнікаў новай беларускай літаратуры". Ніякіх новых дакументаў У. Казбярук не прывёў,


**(Працяг на 4-й стар.).**

# ВЕСТКІ З БЕЛАРУСІ ВЕСТКІ З БЕЛАРУСІ ВЕСТКІ З БЕЛАРУСІ

ПАСЯДЖЭННЕ ВЫКАНКОМА



2 снежня ў Мінску адбылося пасяджэнне Выканаўчага Камітэта Саюза Беларусі і Расіі. Прэм'ер-міністр Расійскай Федэрацыі Віктар Чарнамырдзін ацаніў дасягнутыя на пасяджэнні Выканкома Саюза Беларусі і Расіі дамоўленасці як вельмі важныя для дзвюх дзяржаў. "Ёсць канкрэтны вынік супрацоўніцтва за 11 месяцаў: на 30 працэнтаў узрос тавараабарот паміж нашымі краінамі, што вельмі адрозніваецца ад агульнага ўзроўню па СНД", — сказаў ён. А адным з фактараў поспеху лічыць уніфікацыю законаў і нарматыўных актаў дзвюх краін.

Гаворачы аб выніках пасяджэння Выканкома Саюза, Віктар Чарнамырдзін паведаміў аб рашэнні прыняць адзіны саюзны мытны тарыф. Акрамя таго, ён сказаў журналістам на брыфінгу, што цяпер усе рашэнні, якія прымаюцца на ўзроўні Выканкома Саюза, будуць зацвярджацца ўрадам Беларусі і Расіі.

НА ЗДЫМКУ: прэм'ер-міністр Беларусі С. ЛІНГ і прэм'ер Расійскай Федэрацыі В. ЧАРНАМЫРДЗІН у час пасяджэння.

МІЖНАРОДНЫЯ ДАГАВОРЫ

## БЕЛАРУСЬ ДАЛУЧЫЛАСЯ

Прэзідэнт Рэспублікі Беларусь Аляксандр Лукашэнка падпісаў два ўказы — аб далучэнні Рэспублікі Беларусь да Дагавора САІУ (Сусветнай арганізацыі інтэлектуальнай уласнасці) па аўтарскаму праву і аб далучэнні Рэспублікі Беларусь да Дагавора САІУ па выкананнях і фанаграмах. Абодва дагаворы былі прыняты ў Жэневе 20 снежня 1996 года.

ІМІДЖ

## БЕЛАРУСЬ АБРАНА Ў САВЕТ КІРАЎНІКОЎ

На пленарным пасяджэнні Генеральнай Асамблеі ААН Беларусь была аднагалосна абрана ў Савет кіраўнікоў Праграмы ААН па навакольнаму асяроддзю (ЮНЕП). Акрамя нашай краіны, у гэтым органе 58 дзяржаў, якія выбіраюцца на чатырохгадовы тэрмін на падставе справядлівага геаграфічнага прадстаўніцтва і ўкладу ў дзейнасць ААН па ахове навакольнага асяроддзя.

НАША — НЕ ГОРШАЕ



У 3-й гарадской бальніцы Віцебска праходзілі выпрабаванні інкубатараў для выходжвання неданошаных дзяцей. Распрацаваны і выраблены гэтыя апараты ў доследна-канструктарскім бюро машынабудавання. Як аказалася, вырабы віцебскіх канструктараў па многіх параметрах перасягаюць аналагічныя швейцарскія і венгерскія. Нядаўна закончыліся выпрабаванні яшчэ адной навінкі — інкубатара адкрытага тыпу (ложак-грэлка).

НА ЗДЫМКУ: медсястра палаты інтэнсіўнай тэрапіі Вольга СІДАРЭНКА сочыць за работай інкубатара.

ДЭМАРКАЦЫЯ ЗАВЯРШАЕЦЦА

## НА БЕЛАРУСКА-ЛІТОЎСКАЙ МЯЖЫ

У будучым годзе на літоўска-беларускай граніцы пачне дзейнічаць абсталяванне сістэмы назірання, якое вырабляецца французскім канцэрнам "Томсан".

Аб гэтым было аб'яўлена на праведзенай у Вільнюсе канферэнцыі "Ахова знешніх граніц Еўрасаюза пры інтэграцыі балтыйскіх дзяржаў".

Прэзідэнт Літвы Альгірдас Бразаўскас, які выступіў на форуме, лічыць, што самае позняе ў першай палове 1999 года дэмаркацыя дзяржаўнай граніцы Літвы, акрамя граніцы з Расійскай Федэрацыяй, будзе завершана поўнасцю.

МАСТАЦТВА ДАПАМАГАЕ

## ПРАДСТАЎНІКІ БІЗНЕСА Ў ОПЕРЫ

Наладзіць цесныя сувязі паміж сусветным бізнесам і беларускім мастацтвам — такую мэту паставілі арганізатары сустрэчы, якая адбылася ў Нацыянальным акадэмічным тэатры оперы Беларусі.

Пасол ЗША Дэніэл Спекхард і дырэктар тэатра Сяргей Картэс запрасілі прадстаўнікоў шэрагу буйных фірм на спектакль "Баль-маскарад". Дэніэл Спекхард выказаў надзею, што сярод бізнесменаў знойдуцца жадаючыя аказаць матэрыяльную дапамогу тэатру оперы і беларускаму мастацтву ў цэлым.

УЗНАГАРОДА БДПУ




28 лістапада Беларускі дзяржаўны педагагічны універсітэт адзначаў сваё 75-годдзе. Ва ўрачыстым вечары прыняў удзел віцэ-прэм'ер Рэспублікі Беларусь Уладзімір РУСАКЕВІЧ. Ён уручыў ганаровы дзяржаўны сцяг, якім узнагароджаны БДПУ.

ПЕРАСТУПІЦЬ ПРАЗ СЯБЕ

У Саюзе кампазітараў Беларусі прайшоў вечар, прысвечаны Міжнароднаму дню інвалідаў. Сюды прыйшлі тыя, хто змог пераступіць праз сваю хваробу. Гэтыя людзі, якія самі маюць патрэбу ў дапаможе і клопаце грамадства, дораць сваёй творчасцю свята, цеплыню і дабрыню іншым. Пра гэта сведчыць выстава іх работ у жанры жывапісу, графікі, дэкаратыўна-прыкладнога мастацтва.

У гэты дзень адбыўся і канцэрт, на якім выступілі спевакі і музыканты — пераможцы фестывалю творчасці інвалідаў.



НА ЗДЫМКУ: у глядзельнай зале.

У КНІГУ РЭКОРДАЎ ГІНЕСА

## ХАРАНЕКА — ТРЭЦІ

Гіравік-сілач Вячаслаў Харанека — адзіны на Беларусі, хто ўдастоены гонару быць узнагароджаным медалём і ганаровым дыпломам Міжнароднага клуба рэкардсменаў "Інтэрстронг". Наш волат уключаны ў Кнігу рэкордаў Гінеса за бліскучы вынік, паказаны на святкаванні 850-годдзя Масквы: у становішчы "шпагат" на працягу 10 мінут ён штурхнуў 32-кілаграмовую гіру 85 разоў.

У Кнігу рэкордаў Гінеса, куды ўжо занесены імёны праслаўленых беларускіх атлетаў Віталя Шчэрбы і Аляксандра Курловіча, цяпер залатым радком упісана імя Вячаслава Харанекі.

## ПІРАМІДА БЕНДЗІКАВА

Магілёўчанін Аляксандр Бендзікаў 3 снежня завяршыў узвядзенне самай вялікай у гісторыі піраміды з піўных коркаў. Для яе будаўніцтва запатрабавалася 410 040 коркаў, перыметр асновы піраміды — 12 метраў, вага збудавання — каля тоны. Аляксандр значна перасягнуў ранейшае сусветнае дасягненне, што належала масквічам. Пры гэтым яны працавалі над сваім шэдэўрам учатырох, Бендзікаў жа справіўся сам. Для дасягнення сваёй мэты ён працаваў па 13— 14 гадзін у суткі на працягу 42 дзён.

ЛАСУНКІ



Да 250 тон салодкай прадукцыі выпускаюць штомесяц на віцебскім кандытарскім камбінаце "Віцьба". У гэтым годзе тут асвоілі дзесяць навінак — новыя віды вафляў, сухіх сняданкаў, цукровага пячэння. Усё гэта не залежваецца ў магазінах: прадукцыя "Віцьбы" мае добры попыт.

НА ЗДЫМКУ: тэхнолаг Любоў САЛАМАХІНА з узорамі новай прадукцыі.

АДУСЮЛЬ ПАКРЫСЕ

ЧАТЫРЫ тысячы экземпляраў фотаальбома "Пінск", падрыхтаванага з ініцыятывы прадстаўніцтва ААН у Беларусі і прысвечанага 900-годдзю гэтага палескага горада, выдадзена на беларускай і англійскай мовах, падарыў кіраўніцтву Пінска Павел Крал, прадстаўнік ААН у Рэспубліцы Беларусь.

ПАД ЭГІДАЙ Савета Еўропы распрацоўваецца план рэстаўрацыі старой часткі Гродна, якая будзе насіць назву Траецкае прадмесце і павінна стаць цэнтрам прадпрымальніцтва і гандлю.

СТАРШЫНЯ Беларускага фонду культуры Уладзімір Гілеп выступіў з ініцыятывай: звярнуцца ва ўрад рэспублікі з прапановай перанесці прах славутага паэта Максіма Багдановіча з Ялты ў Мінск і захаваць яго на Вайсковых могілках сталіцы, побач з магіламі Янкі Купалы і Якуба Коласа.

У АРХІВАХ Літвы знойдзены і перададзены Слуцкай школе № 1, якой сёлета споўнілася 380 гадоў, арыгінальны чарцёж яе будынка, зроблены ў той далёкі час.

АТЭСТАЦЫЮ на адпаведнасць еўрапейскім нормам прайшлі 20 зваршчыкаў з Мінска, Гомеля, Наваполацка, Салігорска і Белаазёрска. У Беларусі такая атэстацыя праводзілася ўпершыню, у ёй удзельнічалі спецыялісты з Германіі.

ДВОЕ лепшых фермераў на Віцебшчыне — Віктар Багачоў і Леанід Голенькі — узнагароджаны абласным камітэтам па сельскай гаспадарцы і харчаванню ганаровымі граматамі. Сёлета ўраджайнасць збожжавых у іх гаспадарках склала 45 цэнтнераў з гектара, бульбы — 230, а надоі на кожную карову — 3 900 кілаграмаў.

БЕЛАРУСКІ літаратурны саюз "Полацкая галіна" правёў свой чарговы з'езд, на якім прыняў зварот да Прэзідэнта дзяржавы А. Лукашэнкі і заявіў аб сваім жаданні больш цесна падтрымліваць адносіны з дзяржаўнай уладай, шукаць з ёю ўзаемапаразуменне.

РЭДКІ выпадак адбыўся на малочнатаварнай ферме "Вялікія Эйсманты" калгаса імя Варанецкага Бераставіцкага раёна. Карова па мянушцы Чарнушка прынесла адразу трох цёлачак. Лічыцца, што з'яўленне такой колькасці цялят магчыма толькі ў адной з дзевяці—дзесяці тысяч кароў.

АБ'ЯДНАННІ

## МАЛАДЫЯ ТАТАРЫ

Міністэрствам юстыцыі зарэгістраваны статут яшчэ адной грамадскай арганізацыі — Беларускага рэгіянальнага аб'яднання татарскай моладзі (БРАТМ). Па задуме яе заснавальнікаў, гэта самастойная няўрадавая незалежная самакіруемая арганізацыя павінна аб'ядноўваць маладых людзей, якія пражываюць на тэрыторыі Беларусі і хаця б аддалена звязаны радством з татарамі, для адраджэння іх старажытных традыцый і культуры, а таксама для стварэння ўмоў для ўсебаковага развіцця татарскай моладзі.

Сярод асноўных задач БРАТМ — абарона правоў і законных інтарэсаў яе членаў як нацыянальнай меншасці, клопат аб іх культурным і этнічным развіцці, актыўны ўдзел у вывучэнні, адраджэнні і захаванні нацыянальных традыцый татар, якія гістарычна пражываюць на тэрыторыі Беларусі.

# ГЭТАГА ВЕЛЬМІ ДОЎГА ЧАКАЛІ. МОЖА, 600 ГОД

(Заканчэнне. Пачатак на 1-й стар.).

зале, разумелі і гаварылі па-татарску, але тое, што татарская культура на Беларусі не загінула, змагла прайсці скрозь шэсць стагоддзяў і захаваць імпульс для далейшага ўдасканалення, — відавочна. Адным з пацвярджэнняў таму стала выступленне на вечары нацыянальных самадзейных мастацкіх калектываў. Гродзенскі ансамбль "Кубалягем" ("Матылёк") вабіў маладосцю многіх сваіх удзельнікаў, дзе было нямала вясёлых хлопчыкаў і дзяўчынак 8—10 гадоў, якія з захапленнем танцавалі і спявалі нацыянальныя песні. Увогуле, як падкрэсліла кіраўнік ансамбля Г. Весніна, работа з татарскай моладдзю ў Гродне вядзецца досыць актыўна: акрамя нацыянальнага мастацтва, юнакоў і дзяўчат знаёмяць з гісторыяй народа, рэлігійнымі традыцыямі.

Сучаснаму развіццю татарскага этнасу ў Беларусі ў значнай ступені садзейнічала і, несумненна, будзе садзейнічаць далей міжканфесійная згода ў краіне, адсутнасць рэлігійнай варожасці. Ва ўрачыстым сходзе прыняў удзел прадстаўнік праваслаўнай царквы, які перадаў татарам-мусульманам прывітанне ад Патрыяршага Экзарха, Мітрапаліта Філарэта. Падкрэслівалася асаблівая важнасць узаемаразумення хрысціян і мусульман для дабрабыту ўсяго грамадства.

На святе прысутнічала таксама нямала гасцей з іншых краін: прэм'ер-міністр Татарстана Фарыд Мухаметшын, прадстаўнік Сусветнага кангрэса татар Індус Тахіраў, пасол Расіі Валерый Лашчынін, старшыня таварыства "Татары Літвы" Рамуальдас Макавяцкас, старшыня мусульманскага аб'яднання ў Польшчы Ян Сабалеўскі. Музей нацыянальнай культуры з Казані прывёз невялікую мастацка-гістарычную выставу, якая была разгорнута ў адным з фае тэатра — жывапісныя палотны, творы дэкаратыўна-прыкладнога мастацтва. Але найбольшую цікавасць у прысутных выклікаў стэнд, дзе былі прадстаўлены матэрыялы пра славутыя татарскія роды, чые карані паходзяць з глыбінь беларускіх, польскіх і літоўскіх зямель. Карыцкія, Бяганскія, Багдановічы, Палтаржыцкія, Шагідзевічы, Талькоўскія, Кінскія, Шыманоўскія — многія з гэтых імёнаў пачэсна і з годнасцю ўвайшлі не толькі ў татарскую, але і беларускую гісторыю. Цікава, што сярод удзельнікаў сходу знайшліся сваякі некаторых з пералічаных славутых дынастый.

...У канцы вечара твар беларускага муфтыя І. Александровіча пасапраўднаму свяціўся ад шчасця: поўнасцю выканана разлічаная амаль на год праграма юбілейных мерапрыемстваў, прымеркаваных да 600-годдзя, закладзены камень на месцы будаўніцтва новай мінскай мячэці, на святкаванне прыехала шмат гасцей з самых розных мясцін. І, што асабліва натхніла Ісмаіла Мустафавіча, — ва ўсіх арганізацыйных клопатах татарскай абшчыне вялікую дапамогу аказаў Камітэт па справах рэлігій і нацыянальнасцей, беларускі ўрад, Прэзідэнт краіны даслаў шаноўнаму сходу, усім татарам Беларусі сваё віншаванне, пажаданне поспехаў. І такая ўвага з боку ўлад — заканамерная. У сваім выступленні прэзідэнт нацыянальнага аб'яднання татар-мусульман "Аль-Кітаб" Б. Шабановіч сказаў: "Мусульманін той, чый язык і рукі нікому не прыносяць шкоды". Як сведчыць сучаснае жыццё і шматвяковая гісторыя, беларускія татары цалкам адпавядаюць такому вызначэнню.

**Галіна УЛІЦЁНАК.**











**НА ЗДЫМКАХ: удзельнікі сходу (злева направа) — дэпутат Палаты прадстаўнікоў, старшыня Камісіі па нацыянальнай бяспецы Б. БІКІНІН; госць з Масквы, імам-хатыб маскоўскай мячэці "Ярдам" ("Дапамога") С.-М. ГУЛАМАЎ, мінчанін, былы вайсковец Ф. НУГУМАНАЎ, член праўлення Беларускага аб'яднання татар-мусульман "Аль-Кітаб" І. БАГДАНАЎ; макет мячэці, якая будзе пабудавана ў Мінску; на выставе, што была прывезена на ўрачыстасці з Казані; выступаюць юныя ўдзельнікі гродзенскага ансамбля "Кубалягем" ("Матылёк"); у час пасяджэння.**

**Фота Віктара СТАВЕРА.**

ПЯКУЧАЯ ПРАБЛЕМА

# БЕЛАРУСЬ: ПРОЦІСТАЯННЕ СНІДу

На фоне імклівага росту ВІЧ-інфекцыі Беларусь не адстае ад сусветных тэмпаў. Як было адзначана на прэс-канферэнцыі ў Нацыянальным прэс-цэнтры і была прымеркавана да Сусветнага дня прафілактыкі СНІДу, у 1996 годзе выяўлены 1 021 выпадак ВІЧ-інфекцыі, у 1997 — яшчэ 595 новых выпадкаў. Усяго ж у рэспубліцы на 1 лістапада 1997 года выяўлена 1 728 ВІЧ-інфіцыраваных. Галоўным шляхам перадачы стаў парэнтэральны шлях праз ін'екцыйнае ўвядзенне наркотыкаў. Прагноз далейшага развіцця эпідэміі СНІДу ў краіне крайне дрэнны. Калі ў 1996 годзе ўзрост ВІЧ-інфіцыраваных у Беларусі ў асноўным вагаўся ад 29 да 35 гадоў, то сёння хвароба рэзка памаладзела: большасць хворых — маладыя людзі ад 15 да 25 гадоў. У Беларусі ад СНІДу ўжо памерла 14 чалавек, у тым ліку адно дзіця. У Светлагорску, па прагнозу, на працягу 7—10 гадоў загіне ад наркаманіі і СНІДу каля 5—7 працэнтаў усіх інфіцыраваных сёння. ВІЧ-інфіцыраваныя ў Светлагорску паміраюць і цяпер, аднак не ад СНІДу, а ад перадазіроўкі наркотыкаў, у выніку забойстваў і самазабойстваў.

Апошнім часам тэмпы выяўлення хворых на СНІД крыху знізіліся: прыкладна 50—60 выпадкаў штомесяц. Аднак, калі раней паражоныя вірусам імунадэфіцыту канцэнтраваліся ў Светлагорску, сёння інфекцыя пачала распаўсюджвацца па ўсёй рэспубліцы. Імкліва расце колькасць асоб, якія маюць патрэбу ў медыцынскай дапамозе.

Сёння ў Беларусі пераважаюць дзве трывожныя тэндэнцыі: папершае, хуткае распаўсюджванне наркаманіі, рост якой непарыўна звязаны з павелічэннем колькасці ВІЧ-інфіцыраваных, а па-другое, рост колькасці маці, якія нараджаюць інфіцыраваных дзяцей. У мэтах прадухілення росту СНІДу Беларусь супрацоўнічае з Сусветнай арганізацыяй аховы здароўя па праграме "ААН — СНІД", якая прадугледжвае бясплатную раздачу стэрыльных шпрыцаў наркаманам, што ўжо і ажыццяўляецца ў Светлагорску, плануецца распаўсюджванне гэтага праекта на Бабруйск і абласныя цэнтры. Што тычыцца ВІЧ-інфіцыраваных жанчын, то ў Светлагорску афіцыйна зарэгістравана 20 выпадкаў нараджэння дзяцей маці, заражонымі СНІДам. Сёння ў Беларусі з улікам міжнароднага вопыту распрацавана праграма медыкаментознага зніжэння рызыкі нараджэння хворага дзіцяці ад інфіцыраванай маці. Аб выніках гэтай вельмі дарагой праграмы можна будзе гаварыць толькі праз некалькі гадоў.

На жаль, сітуацыя ў суседніх дзяржавах не спрыяе зніжэнню ў нас тэмпаў росту СНІДу. Вельмі актыўна распаўсюджваецца ВІЧ-інфекцыя на Украіне, і сёння там афіцыйна зарэгістравана больш за 25 тысяч інфіцыраваных, больш за 5 тысяч ВІЧ-інфіцыраваных зарэгістравана ў Расіі.

Яшчэ адна праблема, звязаная з распаўсюджваннем у Беларусі віруса СНІДу, — хворыя зняволеныя, якія знаходзяцца ў беларускіх турмах. Сёння іх каля трохсот чалавек, сярод якіх нямала жанчын. Ужо больш года гэтае пытанне разглядаецца Міністэрствам унутраных спраў: у сувязі з утрыманнем інфіцыраваных узнікае мноства праблем — іх медыцынскае абслугоўванне, харчаванне, а таксама адносіны да іх з боку іншых зняволеных. Першапачаткова для ўтрымання зняволеных, хворых на СНІД, было выдзелена дзве зоны — у Бабруйску і Навасадах пад Барысавам. Аднак пакуль пытанне не вырашана, і ВІЧ-інфіцыраваныя зняволеныя адбываюць пакаранне практычна ва ўсіх турмах рэспублікі. Сёння Міністэрства аховы здароўя Беларусі прызнае, што медыкі не ў сілах процістаяць распаўсюджванню ВІЧ-інфекцыі ў рэспубліцы. Гэта звязана з тым, што Міністэрства аховы здароўя не мае дастатковых сродкаў і кадраў, якія маглі б займацца гэтай праблемай, і таму адным з напрамкаў дзейнасці міністэрства з'яўляецца прыцягненне да прафілактычнай работы немедыцынскіх структур. Пастановай Савета Міністраў 5 жніўня гэтага года была зацверджана Дзяржаўная праграма прафілактыкі ВІЧ-інфекцыі на 1997—2000 гады. Для яе рэалізацыі прыцягнуты цэлы шэраг міністэрстваў і іншых цэнтральных органаў кіравання. Цяпер у Беларусі распрацавана прававая база, якая забяспечвае вырашэнне ўсіх праблем, звязаных з далейшым развіццём ВІЧ-інфекцыі.

Штогод у рэспубліцы ў пачатку снежня праводзіцца Сусветны дзень прафілактыкі СНІДу. Сёлета ён прайшоў пад дэвізам "Дзеці свету і СНІД". У Беларусі знаходзіцца 18 ВІЧ-інфіцыраваных дзяцей, 1 дзіця памерла, 16 дзяцей нарадзіліся ад ВІЧ-інфіцыраваных маці, двое прыехалі з Расіі на пастаяннае месца жыхарства.

У ходзе Сусветнага дня прафілактыкі СНІДу прайшла дабрачынная акцыя "Дзеячы культуры, мастацтва і творчая моладзь супраць СНІДу". Мэта акцыі — прыцягнуць увагу да гэтай пякучай праблемы.

**Вераніка ЧАРКАСАВА.**

## ВЫДАННІ БЕЛАРУСАЎ ЗАМЕЖЖА

## «МОЙ РОДНЫ КУТ»

Фонд славянскага пісьменства і культуры Рэспублікі Малдова і Беларуская суполка Рэспублікі Малдова выдалі калектыўны зборнік "Родны кут", куды ўвайшлі вершы не прафесійных паэтаў, а людзей, воляй лёсу закінутых за межы краіны, якую яны лічаць сваёй радзімай. Былы вайсковец Іван Батрачкін, работнік культуры Вера Бяляева-Сугак, настаўніца-ветэран Любоў Чавусава, былы эканаміст Іван Рахуба, журналіст Раман Кашуткін, інжынер Георгій Стаянаў найлепшым месцам на зямлі называюць Беларусь.

Любоў Чавусава гаворыць пра сябе: "Калі б у мяне запыталі, дзе ў Беларусі самыя лепшыя мясціны, я адказала б:

— Там, дзе я нарадзілася і вырасла. Мой горад вельмі прыгожы, размясціўся ён на сямі ўзвышшах — на кожным царква была пабудавана. А хараство навокал такое, што замірае сэрца. Лес, заліўны луг, на лузе шмат кветак, ягад. Як люстэркі, на сонцы зіхацяць азёры. Здаецца, што нават сонца ў нас свеціць па-асобаму. А вада якая! Нап'ешся і адчуваеш сябе асілкам".

Малюнкі роднай прыроды, сум па мясцінах дзяцінства нараджаюць у сэрцах паэтычныя радкі, што выліваюцца на паперу. Менавіта з такіх вершаў, непасрэдных і шчырых, шчымлівых і наіўных, складаецца зборнік "Мой родны кут". Ён не прэтэндуе на прафесійнасць, галоўнае ў ім — пачуцці. Вершы напісаны на рускай і беларускай мовах.




## «ГОЛАС БЕЛАРУСА»

Латышскае таварыства беларускай культуры "Сьвітанак" выдала газету "Голас беларуса". Таварыства сімвалічна лічыць сябе пераемнікам культурна-асветніцкага таварыства "Бацькаўшчына", заснаванага ў 1921 годзе К. Езавітавым і С. Сахаравым. І цяперашні "Голас беларуса" — таксама працяг той газеты, якую яны выдавалі. Вызначаючы задачы свайго выдання, рэдакцыйная калегія зазначае: "Выхоўваючы нацыянальную свядомасць, прапагандуючы спадчыну і вопыт беларускага Адраджэння Латвіі 20-х гадоў, газета будзе далучаць сваіх чытачоў да нашага Адраджэння праз папулярызацыю старадаўніх добрасуседскіх беларуска-латышскіх сувязей, гісторыі, культуры і традыцый латышскага народа. Газета будзе спрыяць інтэграцыі беларусаў, для якіх гэта зямля стала роднай, у Латвійскую дзяржаву".

Нумар "Голасу беларуса" расказвае пра жыццё суполкі "Сьвітанак", пра гасцей, якіх яна прымае, сустрэчы, што тут адбываюцца. Яна сведчыць, што беларускае жыццё на латвійскай зямлі працягваецца, нашы землякі не забываюць сваю мову, культуру, гісторыю.

## «КАНТАКТЫ І ДЫЯЛОГІ» № 9—10

Чарговы нумар часопіса "Кантакты і дыялогі" адкрываецца артыкулам Галіны Сяргеевай "Беларуская прысутнасць у замежных краінах і праблемы яе захавання", у якім расказваецца пра гісторыю беларускай эміграцыі, яе адметнасць і праблемы на сучасным этапе.

Паведамляе сваім чытачам часопіс аб завяршэнні работы брэсцкага мастака Мікалая Кузьміча па ўзнаўленню вобраза Крыжа прападобнай Ефрасінні Полацкай. З гэтай жа нагоды адбылося заснаванне Фонду Жыватворнага Крыжа святой Ефрасінні Полацкай. Сярод задач, што стаяць перад фондам, ёсць і такая: спрыянне дзяржаўным органам, грамадскім і іншым арганізацыям у пошуках нацыянальнай рэліквіі — аўтэнтычнага Крыжа святой Ефрасінні Полацкай. Прэзідэнтам фонду выбраны генеральны дырэктар ЗАТ "Сібдарсервіс" з Сургута Анатоль Сілівончык, беларус па паходжанні, які многа зрабіў для развіцця беларускай культуры.

Пра Дні беларускай культуры ў Даўгаўпілсе і ўрачыстасці з выпадку 75-годдзя Беларускай гімназіі ў гэтым горадзе расказвае Станіслаў Валодзька. А ў Празе ў верасні месяцы адзначалася свята, прысвечанае 480-годдзю скарынаўскага кнігадруку.

Цікавае паведамленне Таццяны Кляшчонак "З беларускага роду Глушонкаў", у якім расказваецца аб новых знаходках, што датычацца гісторыі знакамітага роду Агінскіх. Літоўскі краязнавец Элеанора Равіцкене ў сваіх лістах, што доўгі час праляжалі ў Смаргонскім краязнаўчым музеі, падае гісторыю паходжання прозвішча Агінскіх. Яна сцвярджае, што маёнтак Uogintai недалёка ад г. Кайшадорыса (Літва) быў у канцы XV стагоддзя падараваны Аляксандрам Ягелонам беларускаму князю Дзмітрыю Глушонку. Гэты двор надаў прозвішча ўсёй дынастыі.

Пад рубрыкай "Беларусы ў свеце" змешчаны паведамленні пра Сяргея Карніловіча і Янку Сурвілу, якія, жывучы на эміграцыі ў Злучаных Штатах Амерыкі і Канадзе, заставаліся шчырымі беларусамі, верылі ў перамогу беларускай нацыянальнай ідэі, працавалі дзеля яе.

Паходзячы з Беларусі, жывучы на Украіне, пісьменніца Мая Львовіч робіць высакародную і патрэбную справу. Дзякуючы яе перакладам, украінскаму чытачу сталі даступнымі творы Янкі Купалы, Максіма Багдановіча, Аляксея Пысіна, Янкі Брыля, Максіма Танка, Уладзіміра Караткевіча, Рыгора Барадуліна.

## ПОШУКІ ІСЦІНЫ ЦІ ШАЛЬМАВАННЕ?

(Працяг. Пачатак на 1-й стар.).

аналізу сучасных і ранейшых ацэнак пісьменніка ў гісторыі беларускай літаратуры не даў, пераваг Я. Чачота над ім па закранутых аспектах (дэмакратызм, беларуская нацыянальная ідэя) не выявіў. У выніку засталося незразумелым, чаму Я. Чачот далучаецца да "маякоў" адраджэння, а Дунін-Марцінкевіч як бы выключаецца з іх ліку.

Але галоўным аб'ектам выкрыцця як фальшывы маяк выбраны К. Каліноўскі. Паводле заявы У. Казберука (ЛіМ, 1990), беларускія гісторыкі, літаратуразнаўцы, пісьменнікі і публіцысты даўно ўжо абвясцілі Каліноўскага "чыста і выключна нацыянальным героем", "рыцарам без страху і папроку ў першародным значэнні гэтага слова". Адказная заява. Але яна нічым не аргументавана і ў дачыненні да гістарыяграфіі цалкам не адпавядае рэчаіснасці. У 20-я гады аб'ектыўную і досыць абгрунтаваную характарыстыку Каліноўскага даў У. Ігнатоўскі, які паказаў яго як беларускага рэвалюцыянера-дэмакрата, ідэолага левых "чырвоных", не пазбаўленага хістанняў у прынцыповых пытаннях, вымушанага ісці на кампрамісы з "белымі". У той жа час С. Агурскі называў Каліноўскага "міфічным героем" і "польскім шавіністам" і спрабаваў даказаць гэта спасылкамі на "Мужыцкую праўду" і "Пісьмо Яські-гаспадара з-пад Вільні да мужыкоў зямлі Польскай". Выступленні Агурскага прычыніліся да таго, што абылганы Каліноўскі ў 30-я гады ўпамінаўся толькі як ідэолаг шляхты, г. зн. вораг народа.

У пасляваенныя дзесяцігоддзі ён зноў стаў у цэлым станоўчым героем у гісторыі Беларусі, але ніхто з савецкіх гісторыкаў не паказваў яго як "рыцара... без заганы". Адзначалася ідэалізацыя Рэчы Паспалітай у "Мужыцкай праўдзе", не раскрывалася або адкрыта скажалася пазіцыя Каліноўскага ў дачыненні да будучыні Літвы — Беларусі, выказваліся папрокі ў яго адрас за № 6 "Мужыцкай праўды", у якім уніяцтва абвяшчалася "верай дзядоў-прадзедаў" беларускіх сялян. Амаль цалкам не ўспрымаліся афіцыйнай гістарыяграфіяй "Пісьмы з-пад шыбеніцы", якія да 1988 года ні разу не публікаваліся ў савецкім друку, за выключэннем вершаванай часткі. Маскоўскі гіторык беларус М. Міско ў 1966 годзе даказваў, што К. Каліноўскі разглядаў Літву і Беларусь як частку Польшчы і цалкам падзяляў праграму польскага паўстанцкага ўрада. Ён жа, як і С. Агурскі, сцвярджаў, што пранізанае польскім нацыяналізмам "Пісьмо Яські-гаспадара з-пад Вільні да мужыкоў зямлі Польскай" зыходзіла ад К. Каліноўскага.

Надуманасць прыведзенай вышэй заявы У. Казберука ў святле гістарыяграфіі відавочная. Гістарыяграфічны агляд, акрамя таго, сведчыць, што шаноўны Уладзімір Міхайлавіч далёка не першапраходзец у пастаноўцы і вырашэнні пытанняў, узнятых ім у артыкулах "Маякі і міражы", "Канстанцін Каліноўскі і яго нацыянальная ідэя".

Метады крытыкі поглядаў К. Каліноўскага ў першым з іх досыць поўна і яскрава праявіліся, у прыватнасці, у аналізе пазіцый "Мужыцкай праўды" па пытанні паходжання паншчыны. У № 2 гэтай газеты Каліноўскі адзначыў, што быў калісьці "народ наш вольны і багаты", але суседзі ("немец" і "маскаль") "хацелі нас сагнаць з нашай бацькаўшчыны". "Трэба было бараніціся, — пісала "Мужыцкая праўда", — так кароль кажа, хадзем бараніць, а тут не ўсе ідуць, ды і мала нашых пайшло. Выгналі ж Маскаля і Немца — але каб жонкі ды і дзеці гэтых, што хадзілі на вайну, мелі за чым пражыці, дык Кароль наш і напісаў такое права. Гэтыя, што не хочуць ісці бараніці сваёй зямлі, няхай абрабляюць поле гэтым, што б'ецца за вольнасць і шчасце ўсіх. І гэтак было доўга: адны баранілі краю, усё хадзілі па войнах, а другія то гаралі, то сеялі, то касілі, то жалі. З гэтуль то і ўзялася гэта паншчына".

У. Казбярук адрэагаваў на прыведзеныя радкі наступным чынам: "Аказваецца, маскалі вінаваты не толькі ва ўсіх **бедах, калі пісалася "Мужыцкая праўда"** (стыль!), але і ў тым, што на нашай зямлі... з'явіўся прыгон! І гэта пісаў чалавек, які знаёміўся (толькі?) з універсітэцкімі навукамі! Беларускі мужык павінен быў паверыць, што пакуль не накінуліся на нас маскалі з немцамі, яго прыгонныя продкі мелі на зямлі рай". У першай з прыведзеных фраз з'яўленне прыгону на нашай зямлі — насуперак тэксту "Мужыцкай праўды" — звязваецца толькі з "маскалямі", а ў наступнай Каліноўскаму прыпісваецца тое, чаго ён не гаварыў ("...прыгонныя продкі мелі на зямлі рай"). А далей У. Казбярук паспрабаваў растлумачыць версію пра сутнасць прыгону ў Рэчы Паспалітай "больш папулярна", спаслаўшыся на пана Патоцкага, якога праславіў Я. Купала ў паэме "Бандароўна". Гэты пан, здзекліва-іранічна зазначае аўтар, "дзень і ноч ваяваў за шчасце роднай краіны, у тым ліку і Беларусі, а мужыкі з усіх сіл стараліся працаваць, каб яго жоначка і дзеткі з голаду не памерлі. Так выглядае ідылія, намаляваная Каліноўскім, калі звярнуцца да канкрэтных прозвішчаў і фактаў". Вось так, дабавім, **аўтар падвёў чытача да думкі, што Каліноўскі падманваў сялян і фактычна апраўдваў прыгон і прыгоннікаў накшталт пана Патоцкага!** Да такога не дадумаўся нават С. Агурскі.

Можна пагадзіцца з У. Казберуком, што пытанне аб паходжанні паншчыны выкладзена ў "Мужыцкай праўдзе" вельмі і вельмі спрошчана. Але гэта зроблена Каліноўскім свядома, як і ў іншых выпадках, — з разлікам на ўспрыняцце масы цёмных, непісьменных сялян, што цалкам ігнаруе У. Казбярук. Больш таго. На яго думку, гэтая спрошчанасць характарызуе ўзровень мыслення самога Каліноўскага, пра што сведчыць пагардлівая фраза: "І гэта пісаў чалавек, які знаёміўся з універсітэцкімі навукамі!". А ў прынцыпе, як паказана мною ў артыкуле "У крывым люстэрку", пазіцыя "Мужыцкай праўды" па гэтым пытанні адпавядае гістарычным рэаліям. Сапраўды, паншчына была не заўсёды, і да яе з'яўлення сяляне-земляробы былі людзьмі вольнымі. Нельга адмаўляць і таго, што выключную ролю ва ўзнікненні і далейшым росце паншчыны адыгралі войны (паны — шляхта як вайсковае саслоўе выраслі з дружын князёў — военачальнікаў). Разумеючы канкрэтна-вобразны характар мыслення сялян, Каліноўскі назваў і народы ("Немец" і "Маскаль"), з якімі беларусам і літоўцам давялося ваяваць за сваю незалежнасць на працягу многіх стагоддзяў. Найперш з войнамі і вайсковаю службаю шляхты (сяляне ў войску ВКЛ не служылі) быў звязаны рост зямельных уладанняў і прывілеяў паноў, з аднаго боку, і павіннасцяў сялян на іх карысць, з другога. Гэты працэс, як вядома, завяршыўся ў ВКЛ у сярэдзіне XVI стагоддзя запрыгоненнем асноўнай масы сялянства. На той час гэта была аб'ектыўна заканамерная з'ява ў развіцці грамадства, і "Мужыцкая праўда" назвала яе справядлівай.

Нагадаўшы маю выснову аб тым, што дадзенае ў "Мужыцкай праўдзе" тлумачэнне паходжання паншчыны ў Літве — Беларусі ў прынцыпе адпавядала гістарычным рэаліям, У. Казбярук у новым артыкуле заяўляе: "Можна сабе ўявіць, як паразумнелі чытачы другога нумара "Мужыцкай праўды", даведаўшыся, што прыгон з'яўляўся праявай найвышэйшай гістарычнай справядлівасці". Пры гэтым у палемічным запале завышае ацэнку "Мужыцкай праўды" і замоўчвае галоўнае ў змесце № 2 — характарыстыку "Маніфеста" кіраўніка вызвольнага паўстання 1794 года Т. Касцюшкі аб адмене паншчыны з сялян, якія "хочуць ужо самі бараніць свае землі". "Вось гэта дык справядлівасць!" — усклікае К. Каліноўскі і заклікае сялян рыхтавацца да вайны супраць "Маскаля", **"каб ніколі, ніякай, нікому мужыкі паншчыны не служылі і ніякага ў казну аброку не плацілі і каб навекі народ наш быў вольны і шчаслівы"**.

Абмінуўшы самае істотнае ў пазіцыі аўтара "Мужыцкай праўды" (№ 2), У. Казбярук пераключае ўвагу чытача з дыскутуемага пытання на зусім іншыя, якія не адносяцца да тэмы спрэчкі: "А ці варта забываць, як тая ваяўнічая шляхта прабалявала і прапіла сваю дзяржаву? А ці адмовілася яна пасля гэтага ад паншчыны?"

Варта нагадаць таксама, што ў артыкуле "Маякі і міражы" У. Казбярук фактычна абвінаваціў К. Каліноўскага ў сляпой нянавісці да праваслаўя і ў сярэдневяковым цемрашальстве за № 6 "Мужыцкай праўды", прысвечаны уніяцкай веры. Аналізуючы гэты нумар, ён зноў праявіў тэндэнцыйны падыход, не заўважыў ключавую фразу К. Каліноўскага, у якой раскрываецца логіка яго разважанняў на тэму веры: "Калі Бог, стварыўшы чалавека, даў яму душу, то не на тое, каб ён жыў як сабака на гэтым, а на тым свеце прападаў на век вякоў у муках пякельных, — а для таго, дзецюкі, каб знаў закон Божы; знаў свайго Бога, знаў сваю веру і заслужыў на шчасце нябеснае". У гэтай сувязі Каліноўскі выказаў абурэнне, што "якісь там цары маскоўскія, байстручага роду, перамянялі закон Божы, а мы на прыказ гэтых цароў выракаліся веры сваіх дзядоў і прадзедаў і не хвалілі Бога, а радню царскую". Пафас гутаркі Каліноўскага ў № 6 — не ў абвяшчэнні "сызмай" праваслаўя ўвогуле, а ў асуджэнні тых, хто насуперак закону Божаму адступіўся ад веры сваіх дзядоў і прадзедаў і "сягоння як той сабака жыве без веры". З кантэксту "Мужыцкай праўды" ніяк не вынікае сфармуляванае У. Казберуком абвінавачанне К. Каліноўскага ў тым, што ён усіх праваслаўных "ставіў на адзін узровень з сабакамі". Пафас № 6 — у закліку мільёнаў былых уніятаў вярнуцца да веры сваіх дзядоў і прадзедаў, што азначала на справе — выступіць супраць "цара маскоўскага", які "нарабіў нам гэтага ліха... а зрабіў гэта для таго, каб мог нас без канца драці". У "Пісьме з-пад шыбеніцы" К. Каліноўскі канкрэтызаваў сваё разуменне афіцыйнага праваслаўя як веры "царскай", г. зн. зрошчанай з царызмам і падпарадкаванай яму. Менавіта гэтае праваслаўе, па трапным вызначэнні А. Герцэна, — "секущее православие" — аўтар "Пісьма" называў "сызмай паганай" для беларускіх сялян.

У заключнай частцы першага артыкула У. Казбярук, праігнараваўшы вядомыя дакументы і сведчанні, у тым ліку "Пісьмы з-пад шыбеніцы", даў па сутнасці адмоўны адказ на сваё ж пытанне, ці лічыў сябе беларусам сам Каліноўскі, ці думаў ён пра Беларусь як пра нешта адметнае, нацыянальна самабытнае і адрознае. Больш таго: спаслаўшыся на газету "Choregiew swobody", падвёў чытача да высновы, што Каліноўскі лічыў сябе палякам і ўспрымаў Беларусь і Літву як арганічныя часткі аднаго непадзельнага цэлага — Польшчы.

А зараз звернемся да аргументаў У. Казберука, прыведзеных у артыкуле "Канстанцін Каліноўскі і яго нацыянальная ідэя". Аўтар напорыста адстойвае ў ім і нават завастрае свае высновы і ацэнкі, зробленыя ў 1990 годзе. Найперш спасылаецца на шырока вядомае "Пісьмо Яські-гаспадара з-пад Вільні да мужыкоў зямлі Польскай", у якім беларускія сяляне безапеляцыйна і нават у абразлівай форме аднесены да палякаў: "мы, што жывема на зямлі Польскай, што **ямо хлеб польскі,** мы, Палякі з вякоў вечных". Не зразумела, праўда, чаму гэты "аргумент" не быў выкарыстаны 7 гадоў таму — у артыкуле "Маякі і міражы". Складваецца ўражанне, што аўтар тады не ведаў (ці забыўся) аб яго існаванні, інакш выкарыстаў бы, паколькі з прызнаннем прыналежнасці гэтага "Пісьма" пяру

(Працяг на 7-й стар.).

## ЮБІЛЕЙ ОРГАНА «БЯЗЛІТАСНАЙ РАСПРАВЫ»

# ВЧК: ПРАЎДА ДЛЯ СЛУЖБОВАГА КАРЫСТАННЯ

***10 снежня 1917 года СНК, заслухаўшы даклад Ф. Дзяржынскага, прыняў пастанову аб зацвярджэнні пры Савеце народных камісараў ВЧК — Усерасійскай Надзвычайнай Камісіі па барацьбе з контррэвалюцыяй, сабатажам і спекуляцыяй.***

Сёння ніхто не схільны ідэалізаваць мінулае, асабліва звязанае з дзейнасцю "караючага мяча" пралетарскай дыктатуры — Усерасійскай Надзвычайнай Камісіі па барацьбе з контррэвалюцыяй, спекуляцыяй і злачынствамі па пасадзе. ВЧК выклікала вельмі адмоўныя эмоцыі не толькі ў праціўнікаў бальшавізму, але часам нават і ў саміх бальшавікоў. Н. Крыленка, напрыклад, пісаў аб ператтварэнні ВЧК у цэлы наркамат, "страшны бязлітаснасцю сваёй рэпрэсіі і поўнай непранікальнасцю для чыйго б там ні было погляду ўсяго таго, што рабілася ў яе нетрах".

### МЫ НАШ, МЫ НОВЫ СВЕТ ПАБУДУЕМ...

Аб'ектам пільнай увагі з'яўляюцца падзеі грамадзянскай вайны, асабліва гісторыя стварэння і дзейнасці ВЧК. Адны бачаць у ёй сімвал маральнай чысціні рэвалюцыі, непрымірымасці да ворагаў, пільнасці і самаахвярнасці і замоўчваюць істотныя памылкі і злачынствы, што мелі месца ў рабоце надзвычайных камісій і асобых аддзелаў. Іншыя робяць акцэнт толькі на паказе негатыўных бакоў дзейнасці ВЧК, злоўжыванняў, парушэнняў і злачынстваў, учыненых шэрагам яе супрацоўнікаў, і на гэтай падставе паказваюць яе як увасабленне "бальшавіцкага тэрору", беззаконня, жорсткасці і насілля. Яны спрабуюць знаходзіць і знаходзяць пераемнасць паміж рэпрэсіўным апаратам перыяду культу асобы Сталіна і органамі ВЧК. Многія дакументы і матэрыялы сведчаць, што менавіта ў дзейнасці ВЧК трэба шукаць палітычныя і маральныя вытокі масавых рэпрэсій і самавольства канца 30-х і пачатку 50-х гадоў.

Што ж сабой уяўляла ВЧК? З *кім яна змагалася і каго карала?* Якую ролю яна адыграла ў абароне рэвалюцыі?

Галоўнай задачай ВЧК першапачаткова з'яўлялася барацьба з контррэвалюцыяй і сабатажам. Потым на яе былі ўскладзены барацьба са спекуляцыяй і службовымі злачынствамі, са шпіянажам, падаўленне контррэвалюцыйных выступленняў, забеспячэнне бяспекі транспарту і Чырвонай Арміі, ахова дзяржаўнай мяжы. Нібыта ўсё ясна. Так нас запэўнівалі дзесяцігоддзямі. Але далёка не ўсё было так адназначна і правільна.

Надзвычайныя камісіі — гэта органы не суда, а "бязлітаснай расправы", па тэрміналогіі ЦК РКП(б).

Надзвычайныя камісіі — "гэта не следчая камісія, не суд і не трыбунал", вызначае сваё задачы сама ЧК, "гэта орган баявы, які дзейнічае па ўнутранаму фронту грамадзянскай вайны. Ён ворага не судзіць, а разбівае. Не мілуе, а спапяляе ўсякага, хто на другім баку барыкад".

Няцяжка ўявіць сабе, як павінна была тварыцца гэтая "бязлітасная расправа", калі дзейнічае замест "мёртвага кодэкса" законаў толькі "рэвалюцыйны вопыт" і "сумленне". Сумленне суб'ектыўнае. І вопыт непазбежна замяняецца самавольствам, якое набывае жудасныя формы ў залежнасці ад складу выканаўцаў.

"Мы не вядзём вайны супраць асобных людзей, — пісаў М. Лацыс у "Красном терроре" 1 лістапада 1918 года. — Мы знішчаем буржуазію, як клас. Не шукайце на следстве матэрыялу і доказаў таго, што абвінавачаны дзейнічаў справай ці словам супраць савецкай улады. Першае пытанне, якое вы павінны яму прапанаваць, якога ён паходжання, выхавання, адукацыі ці прафесіі. Гэтыя пытанні і павінны вызначыць лёс абвінавачанага. У гэтым сэнс і сутнасць чырвонага тэрору".

Лацыс зусім не быў арыгінальны, ён толькі капіраваў словы Рабесп'ера ў Канвенце наконт закона аб масавым тэроры: каб пакараць смерцю ворагаў айчыны, дастаткова ўстанавіць іх асобу. Патрабуецца не пакаранне, а знішчэнне іх.

Факты не пераўпарціш: менавіта кіраўніцтва партыі бальшавікоў рукамі чэкістаў дало ўзор фальсіфікацыі спраў, зыходзячы з "рэвалюцыйнай мэтазгоднасці", рэпрэсій над безабароннымі людзьмі, менавіта яно паклала пачатак д'ябальскай эстафеце даўжынёй у некалькі дзесяткаў гадоў.

Нехта паспяшаецца асудзіць гэтых людзей. Нехта, прачытаўшы іх горкія шчырыя прызнанні, наадварот, згодзіцца з тым, што не сталі гэтыя чэкісты ні "жандарамі", ні "аўтаматамі", нягледзячы на ўсю скалечанасць іх "рэвалюцыйнай правасвядомасці". Гэтыя людзі, напэўна, перажылі ўсё тое ж самае, што і дзеячы эпохі Вялікай Французскай рэвалюцыі, і, падобна Сен-Жусту, маглі б сказаць: "Сіла рэчаў вядзе нас, відаць, да вынікаў, якія не прыходзілі нам у галаву".

Гэтая "сіла рэчаў" — інерцыя бальшавіцкай дзяржаўнасці — ператварала ўчарашніх падпольшчыкаў, былых студэнтаў, рабочых, сялян ці гарадскія абывацеляў, ідэалістаў ці авантурыстаў у супрацоўнікаў новага палітычнага вышуку. Людзі адчувалі гэта, спрабавалі змагацца, супраціўляцца абставінам. Але падзеі захліствалі іх. Выплысці ўдалося, можа быць, не самым лепшым. Ды і тыя, каму гэта ўдалося, станавіліся ахвярамі самавольства сваіх жа больш маладых калег у канцы 30-х гадоў.

Перад вамі вытрымкі з шэрагу дакументаў ВЧК. Адных, магчыма, здзівіць тая цікавасць, якую праяўлялі супрацоўнікі ВЧК да "антырэлігійнай прапаганды", вельмі своеасаблівая зразумець. Іншых — крайняя жорсткасць мер у адносінах да "класавых ворагаў". Адным словам, перад намі дзелавое жыццё, штодзённае існаванне надзеленых асобай уладай людзей, скрытых звычайна покрывам сакрэтнасці і дзяржаўнай тайны.

Паспрабуем жа зірнуць на іх без прадузятасці.

*З пратакола пасяджэння фракцыі Расійскай камуністычнай партыі канферэнцыі надзвычайных камісій па барацьбе з контррэвалюцыяй і спекуляцыяй.*

"12 июня 1918 года.

Ввиду грозного момента и исключительных обстоятельств вынесены следующие постановления:

1. Секретными сотрудниками пользоваться.

2. Изъять из обращения видных и активных руководителей монархистов-кадетов, правых социалистов-революционеров и меньшевиков (1 воздерж.).

3. Взять на учет и установить слежку за генералами и офицерами, взять под наблюдение Красную Армию, командный состав, клубы, кружки, школы и т. д.

4. Применять меру расстрела по отношению видных и явно уличенных контрреволюционеров, спекулянтов, грабителей и взяточников (1 воздерж.).

Председатель: И. Полукаров"

"Всем губкомам РКП!

Дорогие товарищи! Слишком часто отсутствует понимание местными товарищами смысла и значения деятельности ЧК, а также положения этих боевых по охране тыла учреждений. Никакая борьба на внешнем фронте невозможна без наличия прочного и надежного тыла — того тыла, охрана и поддержка которого всецело лежит на ЧК и им подобных органах. Надежным же тыл может быть лишь тогда, когда он очищен от всех активных контрреволюционеров, а пассивные террорризированы и не способны для контрреволюционной борьбы, но в этом ВЧК и ЧК очень часто мешают свои же товарищи, далекие от понимания необходимости решительной и беспощадной борьбы с врагами Советской власти.

Для нас, чекистов, наученных опытом борьбы с контрреволюцией, ясно, что история скорее простит нам излишнюю решительность, чем мягкотелость, которую всегда стараются использовать контрреволюционеры...

С коммунистическим приветом:

Зам. Председателя ВЧК Ксенофонтов

6/VII-20 г."

*З пісьма загадчыка сакрэтнага аддзела ВЧК Т. Самсонава Ф. Дзяржынскаму.*

"4 декабря 1920 г.

Сов. секретно

1. Тов. Лацис глубоко прав, когда говорит, что Коммунизм и Религия взаимно исключаются, а также глубоко прав и в том, что религию разрушить не сможет никакой другой аппарат, кроме аппарата ВЧК.

2. Линия, принятая ВЧК по разрушению религии, с практической стороны в принципе верна, за исключением вопроса о возможности разложения религии из центра, через лиц, занимающих высшие посты церковной иерархии...

3. Секретный отдел ВЧК за последнее время в своих планах по разложению церкви сосредотачивает все свое внимание именно на поповскую массу, и только через нее мы сможем, путем долгой, напряженной и кропотливой работы, разрушить и разложить церковь до конца...

4. До сих пор ВЧК занималось только разложением православной церкви как наиболее могущественной и большой, чего не достаточно, так как на территории Республики имеется еще ряд не менее сильных Религий, каков Ислам и пр., где нам также придется шаг за шагом внести то же разложение, что и православной церкви".

*З пісьма Ф. Дзяржынскага ў ЦК РКП*

(не пазней 25 студзеня 1921 г.)

"...Что касается применения высшей меры наказания, ВЧК 24-го декабря прошлого года дала телеграмму всем Губчека, запрещающую приводить в исполнение приговоры высшей меры наказания без санкции на то ВЧК, за исключением приговоров по делам об открытых вооруженных выступлениях. По вопросу о возможности отмены В. М. Н., то ВЧК полагает, что ее можно отменить по всем политическим преступлениям, за исключением террористических актов и открытых восстаний. В области уголовных преступлений ВЧК считает необходимым применять высшую меру наказания к бандитам и шпионам, но в особенности настаивает на сохранении высшей меры наказания для тех должностных преступлений, которые резким образом препятствуют Советской власти восстановить производительные силы...

Опираясь на широкие массы, и в первую очередь на Профессиональные Союзы, ВЧК надеется достичь того, что деятельность карательных органов будет восприниматься пролетариатом как осуществление собственной диктатуры.

ВЧК просит ЦК РКП одобрить занятую позицию относительно ограничений отмены Высшей Мер Наказания в области политических преступлений и усиления репрессий против должностных преступлений на хозяйственном фронте".

*З заключэння Ф. Дзяржынскага на праект палажэння аб камісіі па барацьбе са злачынствамі ў пралетарскім і сялянскім асяроддзі.*

(не пазней сакавіка 1921 г.)

"...Отдача ВЧК под надзор НКЮста роняет наш престиж, умаляет наш авторитет в борьбе с преступлениями, подтверждает все белогвардейские россказни о наших "беззакониях", по существу не достигая никаких результатов надзором одного лица столь большого аппарата.

Это акт не надзора, а акт дискредитирования ВЧК и ее органов. Быть под надзором одного лица, иметь комиссара Коллегии — Ч. К. на заслужили, так как состоят из членов партии, испытанных в боях и со стажем большим, чем Зав. Губюстами. Ч. К. находятся под надзором партии. Введение комиссара Губюста означает фактически перемену курса против Ч. К., так как Губюсты — это органы формальной справедливости, а Ч. К. органы дисциплинированной партийной боевой дружины...

Ч. К., члены Коллегии и сотрудники не могут быть гражданами той же категории, что и белые спецы, — гражданами 2-й категории".

*З заявы супрацоўнікаў Віцебскага аддзялення Асобага аддзела Заходняга фронту ў ЦК РКП.*

"18 марта 1921 г.

Мы, коммунисты — сотрудники Витебского Отделения Особого отдела Запфронта, ставим в известность ЦК РКП о неправильных расстрелах коммунистов, находящихся на службе в Особых Отделах и Чека, которые в последнее время участились. Расстреливают сотрудников за разные преступления, и никто из коммунистов, находящихся в этих пролетарских карательных органах, не гарантирован от того, что завтра его не расстреляют, подведя под какую-нибудь рубрику одного из преступлений.

Расстреливая сотрудников и, по-видимому, рассчитывая на оздоровление аппарата карательных органов, люди, стоящие на "верхах", совершенно не хотят понять, что этим они еще больше вносят разложение в среду сотрудников, у которых отпадает всякое желание работать, появляется полная апатия ко всему окружающему, и наконец для него становится безразличным стать под расстрел.

А если бы те, которые так легко подписывают смертные приговоры, посмотрели поближе на жизнь сотрудников и увидали, что они босы, голы, голодны, что они происходят из рабочих и крестьян, имеют недостатки, оставленные им в наследство царизмом, а главным образом, буржуазную идеологию, то нам кажется, что их руки не могли бы легко подписывать "расстрелять".

Как это ни печально, но мы должны сознаться, что коммунист, попадая в карательный орган, перестает быть человеком, а превращается в автомат, который приводится в движение автоматически. Даже механически мыслит, так как у него отнимают право не только свободно говорить, но свободно индивидуально мыслить. Он не может свободно сказать свои взгляды, излить свои нужды, так как за все грозят расстрелом...

Расстреливать нужно: буржуазию, спецов-интеллигентов, бандитов и идейных контрреволюционеров, расстреливая которых мы уничтожаем корни зла. Всегда, по нашему мнению, при осуждении преступника нужно считаться с его социальным положением. Теперь, если мы посмотрим на коммунистов, находящихся в пролетарских карательных органах, то мы увидим, что они стоят вне политической жизни, так как благодаря долгому пребыванию в карательных органах, благодаря однообразной, черствой, механической работе, которая только заключается в искании преступников и в уничтожении, то они постепенно против своей воли становятся индивидами, живущими обособленной жизнью. В них развиваются дурные наклонности, как высокомерие, честолюбие, жесткость, черствый эгоизм и т. д., и они постепенно, для себя незаметно, откалываются от нашей партийной семьи, образовывая свою особенную касту, которая страшно напоминает касту прежних жандармов...

Резюмируя вышеизложенное, мы говорим: почаще производить смену коммунистов, находящихся в пролетарских карательных органах, побольше внимания на их работу, а также жизнь их сотрудников.

Расстрелы для буржуазии и товарищеское исправление для рабочих и крестьян. Вот на чем должны быть обоснованы наши карательные органы".

*З успамінаў З. Арбатава аб знаходжанні ў Мінску ў кастрычніку 1922 года.*

"На стене деревянной лавки прибитый мелкими гвоздями висел список фамилий, под которыми крупно выделились слова "кого карает Чека". На ходу глазом схватил я цифру "46" ...Мой спутник потянул меня за собой и, оглянувшись назад, скороговоркой проговорил: "У нас здесь это не новость... Список меняется каждый день... но если увидят, что вы список читаете, то вас могут взять в Чека... Вот все говорят, что если среди ваших знакомых нет врагов советской власти, то вам незачем интересоваться этими списками... Расстреливают каждый день по несколько десятков человек!.."

Падрыхтаваў **Ігар КУЗНЯЦОЎ.**

*ВЕЧАРЫНА З НАГОДЫ ЮБІЛЕЮ МАКСІМА ТАНКА*

# ПАЭТ БАГАТЫ І ШЫРОКІ



Нехта з паэтаў сказаў, што калі адбываецца заняпад нацыянальнай літаратуры, то гэтая нацыя паступова гібее і памірае. На сённяшні дзень наш народ мае шэраг постацяў, якімі можа ганарыцца любая нацыя. Пра вялікую беларускую літаратуру і, у прыватнасці, пра паэзію аднаго з яе магутных творцаў шмат цікавага, новага можна было пачуць на вечарыне "З якіх крыніцаў чысціня такая...", што была прымеркавана да 85-х угодкаў народнага паэта Максіма Танка.

Праходзіла гэтая літаратурна-музычная вечарына традыцыйна для Дома літаратара. Вядучы — паэт, старшыня Саюза беларускіх пісьменнікаў Васіль Зуёнак запрашаў да мікрафона пісьменнікаў, артыстаў, чытальнікаў, музыкаў. І з усяго гэтага паўставаў вобраз геніяльнага паэта, мудрага і сціплага, зычлівага і ўдумлівага, наіўнага і вясёлага чалавека.

Паэт Мікола Аўрамчык у сваім выступленні прыгадаў адну з самых памятных для яго сустрэч з пісьменнікамі Заходняй Беларусі, якая адбылася 58 гадоў таму назад. На гэтай сустрэчы чытаў свае творы малады дзяцюк, гнуткі, танклявы, з непаслухмянай чупрынаю, — Максім Танк. Яго вершы сустракалі бурнымі воплескамі. Яны засталіся ў памяці да сённяшняга дня. Мікола Аўрамчык назваў Максіма Танка самым паэтычным з усіх нашых беларускіх паэтаў, маючы пры гэтым на ўвазе імпульсіўнасць і паэтычны радок.

Максім Танк — паэт надзвычай багаты і шырокі. Гэтая думка гучала ў выступленні Вячаслава Рагойшы, прафесара, старшыні камісіі СПБ па захаванні творчай спадчыны паэта. Ён адзначыў, што дыяпазон творчасці Максіма Танка сягаў ад рэалізму да мадэрнізму, ад вершаў, у якіх ён выкарыстоўваў народную песню, — да верлібра, ад 4-радковых строфаў да санетаў. Даследаваць і данесці да чытача гэтую багатую спадчыну — важная надзённая задача. І такая праца ўжо распачалася: у Інстытуце літаратуры Нацыянальнай акадэміі навук ствараецца 15-томны збор твораў Максіма Танка. Сёлета праведзены першыя Танкаўскія чытанні ў Мінскім педагагічным вучылішчы і Мінскім дзяржаўным педагагічным універсітэце, якія носяць імя паэта.

Доўгі час Максім Танк працаваў рэдактарам часопіса "Полымя". Цяпер яго ўзначальвае паэт Сяргей Законнікаў. У ягоным пранікнёным палымяным слове прагучаў зварот да моладзі і настаўнікаў — заўсёды і ўсюды адстойваць нашу мову, культуру, асабліва зараз, калі ідзе наступ на літаратуру.

Трывога за дзень сённяшні гучала і ў выступленні народнага пісьменніка Івана Шамякіна. А заслужаны дзеяч культуры Аляксей Слесарэнка прыгадаў, як радаваўся Максім Танк, калі быў пабудаваны Дом літаратара. Ён марыў і спадзяваўся, што такія літаратурныя асяродкі паўстануць у Гомелі, Брэсце, Віцебску, Магілёве. І там будуць сустракацца пісьменнікі з прыхільнікамі сваёй творчасці. На жаль, адбываецца адваротнае. Дом літаратара забіраюць. З гэтай думкай выходзіў на сцэну, бадай, кожны прамоўца, пісьменніцкая трывога за лёс Саюза пісьменнікаў перадавалася аўдыторыі.

На вечарыне быў выкарыстаны фрагмент дакументальнага фільма "Максім Танк", а таксама аўдыёзапіс апошняга выступлення паэта ў 1993 годзе на вечарыне з нагоды юбілею Язэпа Драздовіча. Паэт Сяргей Панізьнік прачытаў верш, прысвечаны Максіму Танку. Але ні песня "Я хацеў бы...", якую праспяваў Уладзімір Васільеў, ні вершы ў добрым выкананні чытальнікаў "Жывога слова" (мастацкі кіраўнік — Юрась Чарэнка), і нават цудоўная праграма фальклорнага гурта "Ярыца" (мастацкі кіраўнік Аляксандр Макаўчык) — не надалі весялосці.

І ўсё ж гэта першая юбілейная вечарына без Максіма Танка — даніна памяці вялікаму паэту і надзея на тое, што народ беларускі не загіне, пакуль у яго ёсць такія геніі.

**Ірына ЛЯКСЕЕВА.**

**НА ЗДЫМКУ: Максім ТАНК з унучкай Кацяй. 1986 год.**

**ФотаУладзіміра КРУКА.**

# ДУШЫ ВЫСОКАЯ СВАБОДА...

**(Заканчэнне. Пачатак на 1-й стар.).**

Алена Васілевіч ніколі не забываецца пра тую самую сястру таленту, паводле Чэхава. Піша сцісла, ясна, старанна адбіраючы сюжэтныя лініі, дэталі, словы... Заўсёды — маючы на ўвазе той зыходны момант, што Лідзія Гінзбург пазначала, як "этычныя магчымасці жыцця". Бо дабрата, справядлівасць, спагада для Алены Васілевіч не абстрактныя і не састарэлыя катэгорыі. Як і прыгажосць. Як талент.

Яна — чалавек, творца, што ўмее спачуваць і захапляццца. Умее прамовіць сваё, асабістае — пра Льва Талстога, Змітрака Бядулю, Янку Маўра, пра сваіх калег, сяброў па творчым вопыце — Івана Мележа, Яна Скрыгана, Уладзіміра Караткевіча, Васіля Вітку... Абавязкова заўважыць свежы творчы голас — як то было ў сваю пару з Нінай Мацяш, Верай Вярбой, Леанідам Галубовічам, Яўгенам Лецкам, Міхасём Клебановічам... Наведае выставу ці майстэрню — і скажа сваё слова пра мастачак Раісу Кудрэвіч і Нэлу Шчасную...

Сама Алена Васілевіч мела ўвагу такіх розных па складу свайго таленту літаратараў, як Рыгор Шкраба, Віктар Каваленка, Барыс Бур'ян, Міхась Тычына, Алесь Разанаў, Людміла Рублеўская, Серафім Андраюк... І... спіс можна працягваць...

Таленавітая пісьменніца, адметная асоба... Жанчына, што сваім існаваннем сцвярджае, як незалежна ад сацыяльна-грамадскіх узрушэнняў і пераўтварэнняў, ад бясконцага жыццёвага клопату, ад напружанай працы — натхнёна-творчай і руцінна-неабходнай (у тым ліку хатняй, гаспадарчай) — яна, спадчынніца высакародна-надзейнага роду (дзед Алены Васілевіч па маці Рыгор Якаўлевіч Гуryновіч пазначаны як уладальнік 20 дзесяцін зямлі, сталы гаспадар, патомны шляхціц у "Памятнай кніжцы Менскай губерні"), дык вось яна застаецца той кабетай, у якой адчуваецца прыцягальнасць нацыянальнай традыцыі, дзе менавіта ў засцянковай шляхты ў аднолькавай пашане былі плуг і прылады пісьмовыя, сялянская дбайнасць і рыцарская гжэчнасць, жаночая працавітасць і жаноцкая вытанчанасць.

Між іншым, некалі Ганну Ахматаву спыталі, куды падзеліся чароўныя дамы былых часоў. Вымерлі — быў адказ. А ўсё ж — не. Маючы на ўвазе і самую вялікую паэтэсу, і такіх жанчын, як Ангеліна Сцяпанава, Ганна Абуховіч, Анастасія Вярцінская...

Як Алена Васілевіч...

Памятаю свае першыя ўражанні ад асабістых сутыкненняў з ёю ў выдавецтве "Мастацкая літаратура". **З'яўляецца** яна — Алена Васілевіч. Не мітусіцца, не ляціць на злом галавы, не дае марша апраметна-занятай асобы. Не! **З'яўляецца** — у капелюшы з шырокімі палямі, у паліто-рэдынгоце. Лёгкая ўсмешка — а не галасны рогат, плаўная хада — а не размашысты крок: "левай, левай, левай!" Жанчына "до кончиков ногтей", але і чалавек дзелавы. Алена Сямёнаўна, прыходзіўшы на працу, не марнавала час на галёканне, на псеўдапрацоўныя размовы. Яна рабіла справу. І творчыя задумы яна ўмее ажыццяўляць, не адкладваючы на вялікае ніколі. І загадчыцай аддзелаў яна была і ў часопісе "Работніца і сялянка", і ў выдавецтвах "Мастацкая літаратура" і "Юнацтва" — дзелавой, добразычлівай, патрабавальнай. Чалавекам справы — творча зацікаўленым. І дэпутатам яна была — сапраўды слугуючы свайму электарату. І ў праўленнях Саюза пісьменнікаў і Літфонду не проста на пасяджэннях прысутнічала — дапамагала людзям, канкрэтна дбала пра справу.

"Жыві, як пішаш, і пішы, як жывеш", — некалі я ўжо згадвала гэтыя словы рускага паэта Канстанціна Бацюшкава ў дачыненні да Алены Васілевіч. Аднак — хачу паўтарыць. Многія літаратары на паперы ўмеюць быць бескарыслівымі, добрымі, справядлівымі, пранікнёна-тонкімі, абаяльна ўважлівымі... У жыцці... далёка не кожны адважваецца быць роўным сваім творчым высновам... Алена Васілевіч — умее.

Уявіце сабе: сярод белага дня, будзённага, рабочага, у кватэру ўвальваецца гурба башавэлкаў (слова Алены Васілевіч). Гэта вучні са школы, што побач з домам Алены Сямёнаўны, даведаўшыся пра месцазнаходжанне аўтаркі тэтралогіі (не дзе-небудзь, у мройлівай далечыні, а побач), з'яўляюцца, так бы мовіць, явачным парадкам на творчую сустрэчу. І тая, што дала літаратурнае жыццё Ганьцы, не падманвае іх уяўленні. Творчая сустрэча адбываецца. А дзяўчаты і хлопцы акрылена пракладваюць дарогу сябрам... Дабрата пісьменніцы — не толькі на старонках кніг, яны гэта ведаюць пэўна.

Алена Васілевіч не любіць афіцыйных імпрэз: ні з нагоды выхаду сваіх кніг (моднае сёння слова — прэзентацыя), ні з нагоды круглых і напаўкруглых дат. Колькі ні спакушалі яе афіцыйныя пісьменніцкія ўлады, яна не наладжвала мерапрыемстваў ні ў вялікай залі, ні ў камінным, ні ў гасцінай.

"Люблю будзённы дзень" — так некалі назвала адзін са зборнікаў сваёй рэдакцыі Алена Сямёнаўна. Яна сапраўды любіць будзённыя дні, так бы мовіць, нефармальныя адносіны з людзьмі, без афішавання і доўгіх размоў умее дапамагчы. Многія ў Саюзе пісьменнікаў і за яго межамі маглі б доўга расказваць пра яе чынны ўдзел у іх лёсе. Ёсць пра што сказаць і мне.

Неяк падчас працы ў "Мастацкай літаратуры" абставіны склаліся так, што даводзілася мне рабіць не толькі за сябе, а і "за таго хлопца", і за тую дзяўчыну, яшчэ за некага. Стамілася страшэнна. У Саюз пісьменнікаў мяне прынялі гады праз два (тады яшчэ не запісвалі ў гэтую творчую суполку чарадою — "поротно и поэскадронно"), і пра Дом творчасці ў Каралішчавічах я толькі чула. "Мастацкая літаратура" месцілася тады ў некалькіх пакоях — усе былі разам, і мне спачувалі, вялі гаворку пра тое, што трэба было б звярнуцца ў Літфонд і г. д. Спачувалі мне доўга і шчыра, тэлефанаваць у Літфонд ніхто не спяшаўся.

І — зноў жа — **з'явілася** Алена Сямёнаўна. Яна моўчкі ўзяла трубку, набрала нумар, перамовілася некалькімі словамі і даяла мне: "Ідзіце ў Літфонд. Бярыце пацёўку ў Каралішчавічы".

Тады яшчэ не было буйной трасы амаль побач з Домам творчасці, затое была ціхая гравейка, густы лес, сцежка да Ласінага возера, сцежка да спарткомплекса Стайкі і казачны дамок, да якога ўпрыцён падыходзілі сосны і яліны. Мне дастаўся 13-ты пакой з асобным ганкам, на які да мяне прыходзіла маладзенькая вавёрачка. Шчаслівы трынаццаты пакой! Пасля бясконцага тлуму горада і летняга вэрхалу ў маім двары, дзе з траўня да верасня такі гармідар, у параўнанні з якім вавілонскае стаўпатварэнне можа падацца ціхай таварыскай сустрэчай, пасля ўсяго гэтага — святочная цішыня лесу, зачараваны катэдж: нібыта дэкарацыя, што раптам сталася рэальнасцю. І магчымасць поўнай адстаронеасці ад усіх і ад усяго — незабыўная прывілея Дамоў творчасці.

Потым я неаднаечы была ў Каралішчавічах, зазнала непараўнаную прыцягальнасць Дубултаў, пабачыла, але чамусьці не адчула хараство Піцунды... А ў памяці — як падарунак лёсу — найперш згадваецца тое лета ў Каралішчавічах. Некалькі тыдняў... Добраю воляй Алены Сямёнаўны.

Сама Алена Сямёнаўна любіла Каралішчавічы — сёння страчаныя (іх прадалі са з'яўленнем Дома творчасці на Іслачы). Чытачы "Голасу Радзімы" ведаюць яе ўспаміны пра гэты куток зямлі — аднак асабліва любіла Ялту, з ахвотай ездзіла туды і, на жаль, даўно ўжо не мае, так бы мовіць, "тэхнічнай магчымасці" рушыць у тое сённяшняе замежжа.

Зараз многія з нас страцілі звычайныя, будзённыя даброты: магчымасць набыць кнігу, пайсці ў філармонію паслухаць знакамітых выканаўцаў... Набыць музычны запіс... І тым больш уражваюць учынкі Алены Сямёнаўны.

"Слова і культура" В. Мандэльштама, "Матэрыялы да біяграфіі" Барыса Пастарнака, мемуары княгіні Шахаўской — дзе вы знойдзеце сёння дзівакоў, якія б проста так, без дай прычыны, аддалі вам гэты скарб? Алена Сямёнаўна здатная на шчыры жэст: "Няхай на вашай паліцы ляжыць і гэта кніга". "Вы шукаеце Шапэна? У вас будзе Шапэн", — і яна прыносіць пласцінку з эцюдамі вялікага паляка.

Такая шчадрата натуры ўласцівая хіба яшчэ аднаму чалавеку — Барысу Бур'яну, тонкаму празаіку, бліскучаму тэатральнаму крытыку, бібліяфілу і эрудыту. Гэта ён мог у самую пару кніжнага буму прэзентаваць рарытэты — выданні пачатку стагоддзя, серыю кніжак Кнута Гамсуна (між іншым, выбітнага нарвежца з яго малапрыдатным палітычным мінулым на той момант у нас і ў думках не меліся друкаваць) або прынесці ўспаміны вялікага актора Паўла Арленева выдання "Academia".

Ну, і такі рух душы натуральна прыдатны крэўнаму спадчынніку Алены Сямёнаўны, яе сыну, Уладзіміру Васілевічу, вучонаму Боскай міласцю, таленавітаму выкладчыку, аўтару фундаментальных даследаванняў па фальклоры і этнаграфіі, меламану, аматару тэатра. Пачуўшы ад мяне, што ад кнігі маёй улюбёнай Марыэты Шагінян "Чалавек і час" пасля рамонту кватэры засталіся толькі фрагменты (я захоўвала часопісы "Новый мир", дзе друкаваўся гэты твор), назаўтра прынёс мне шыкоўнае выданне "гісторыі чалавечага станаўлення". Без аніякай нагоды — проста так, пры "ўрачыстым святле дня" (М. Стральцоў).

...Таямнічая і відавочная сувязь — генная, крэўная, родавая... Я думаю пра тое, згадваючы класічную постаць яе дачкі Наташы, за якой зачаравана крочаць усе юныя насельнікі Каралішчавіч, яна настаўніца музыкі — і ўмее захапіць дзятву ўзорамі сваёй адукаванай фантазіі.

Каралішчавічы, Іслач...

Гартаю старонкі памяці.

Перагортваю старонкі напісанага Аленай Васілевіч. Вось яшчэ адна — з прысвячэннем сыну малодшай Алены — Леначкі: Дзіму Юраву...

І яшчэ — старонкі, старонкі, старонкі...

Некалькі новых толькі што занесены ў "ЛіМ" — магчыма, з'явяцца ў друку разам з гэтым словам пра яе. А ў выдавецтве "Мастацкая літаратура" даўно ўжо чакаюць сваёй чаргі два рукапісы... Даўно чакаюць... І быў бы самы момант для з'яўлення кнігі...

Між іншым, зірнула ў шасцітомнік біябібліяграфічнага слоўніка "Беларускія пісьменнікі" — і па шчырасці здзівілася. Алена Васілевіч. "З 1983 на пенсіі". Якая пенсія? Так, пісьменніца Алена Васілевіч пайшла **са службы**, але ж даведнік — **пісьменнікаў, творчых асоб.** Хіба Янка Брыль, Васіль Быкаў, Сяргей Грахоўскі — пенсіянеры? І няўжо Леў Талстой быў ім? Або Іаган Вольфганг Гётэ?

Так, за плячыма Алены Васілевіч — немалы шлях. Аднак пяро яе — у творчай форме. Той самай, што не залежала ад жыццёвых мітрэнг. Занятасць, няўладзіцы — але заўсёды пазначала быццё "душы высокая свабода" (Г. Ахматава).

На старонках напісанага Аленай Васілевіч э'яўлялася не толькі проза. Ствараліся і вершы — паэтычнасць пісьма Алены Васілевіч увасаблялася і ў такім, непасрэдным аблічы.

**Старонкі даўняга кахання**
**Плывуць па Іслачы-рацэ.**
**Ні шкадавання, ні чакання,**
**А толькі холадна руцэ,**
**Што аддала іх хвалі плыннай,**
**І на асеннім ветры стыне**
**Такое дзіўнае расстанне.**
**Такое дзіўнае расстанне...**

...Некалі Алена Сямёнаўна даверыла мне прачытаць свае вершы... А пазней — аддала тыя старонкі Іслачы-рацэ. Гэта яе словы...

Шкада... Аднак — яе воля...

Воля, што мецiла і меціць творчыя імгненні, гадзіны, дні, гады пісьменніцы Алены Васілевіч. З яе высокай свабодай душы...

**Ала СЯМЁНАВА.**

## ДНІ ЛІТАРАТУРЫ Ў ВІЦЕБСКУ

Дні літаратуры, прысвечаныя памяці Уладзіміра Караткевіча, трынаццаты раз прайшлі ў Віцебску. Свае вершы ў студэнцкіх аўдыторыях і працоўных калектывах чыталі паэты з Мінска і вобласці.

НА ЗДЫМКАХ: помнік Уладзіміру КАРАТКЕВІЧУ ў Віцебску; удзельнікі Дзён літаратуры ля помніка.

Фота Аляксандра ХІТРОВА.





### МАСТАКІ ПРАДЭМАНСТРАВАЛІ ТВОРЧАЕ ЎЗАЕМАРАЗУМЕННЕ І ЎЗАЕМАДАПАЎНЕННЕ

# ВАСЮКІ

У лістападзе гледачы Мінскага Палаца мастацтва пераканаліся, як удала спалучыліся на юбілейнай выставе двух таленавітых беларускіх мастакоў суполкі "Пагоня" Саюза мастакоў Беларусі графічна-жывапісныя белыя туманы Уладзіміра Васюка з белымі скульптурнымі партрэтамі легендарных дзеячаў старажытнай Беларусі, створанымі Тамарай Васюк. І нездарма сябры і калегі называюць ласкава гэтую ўдалую сямейную пару Васюкі. Яны не толькі муж і жонка, але і ў мастакоўскай справе і духоўным сумоўі паплечнікі, якія разам скончылі ў 1972 годзе Мінскую мастацкую вучэльню, а потым і Беларускі дзяржаўны тэатральна-мастацкі інстытут — Тамара ў 1977 годзе, Уладзімір у 1978. Творчыя поспехі аднаго падштурхоўваюць да новых узлётаў другога. Але больш за ўсё іх аб'ядноўвае бязмежная любоў да сваёй Бацькаўшчыны, да яе гістарычнага мінулага і сучаснага лёсу. За мінулыя амаль 25 год мастакоўскай дзейнасці яны стварылі шмат твораў, якія надавалі агульным выставам прывабнасць і змястоўнасць. Але на сваю юбілейную выставу Васюкі вылучылі толькі творы апошніх трох год (1995—1997), зрабіўшы пры гэтым бязлітасны адбор з напрацаванага.

З гэтай нагоды іх выстава выглядала кампактна і вельмі рафініравана. Па гэтых творах быў відавочны іх бездакорны талент. Размешчаныя на сценах узнёслыя летуценныя чорна-белыя графічныя "філасафемы" Уладзіміра "Прывіды маёй малой радзімы" арганічна дапаўнялі на пастаментах белыя керамічныя бюсты і постаці ў рост пад серыяй скульптур Тамары "Слынныя асобы маёй Радзімы".

Гэтую пераважна белую танальнасць (так характэрную для многіх мастакоў суполкі "Пагоня") парушаў толькі адзін нізкі подыум з керамічнай кампазіцыяй Тамары "Свянцянскае зелле", утворанай з чырвона-лашчонага традыцыйнага беларускага посуду як колеравы сімвал старажытнага бел-чырвона-белага беларускага сцяга.

Творы Васюкоў, сабраныя разам, стварылі выразны вобраз Беларусі, нагадаўшы нам пра яе значную культурную спадчыну, самотную прыроду, прыгожых краявіды і багатую на таленавітых людзей краіну.

З графічных аркушаў Уладзіміра някідка праступаюць скрозь белыя туманы і абломкі вобразы то элегантнай беларускай жанчыны ў белай намітцы ("Здань"), то мужчыны з вусамі і барадой ("Цішыня"), то балавежскага зубра праз абрысы беларускіх межаў на геаграфічнай карце ("Усведамленне"), то белы профіль жанчыны-прыгажуні на шары, які высока ўзляцеў у неба ("Узнясенне"). Дарэчы будзе прыгадаць, што ўспрыняцце вобраза Беларусі на геаграфічнай карце праз абрыс постаці зубра Уладзімір Васюк упершыню пачуў ад Уладзіміра Караткевіча, яшчэ будучы пачынаючым мастаком. Між іншым, у той час контурныя межы Беларусі на карце многімі ўспрымаліся праз абрысы кляновага ліста. І некаторыя паэты гэтым уяўленнем нават прысвяцілі свае вершы... Прайшлі дзесяцігоддзі, і У. Васюк згадаў і пераасэнсаваў гэтыя словы У. Караткевіча, стварыўшы самы бліскучы на выставе твор "Усведамленне". У ім мастак прадэманстраваў сталенне сваёй беларускай самасвядомасці праз вобраз магутнага зубра, ён адмовіўся ад вобраза Беларусі як кволага кляновага лісцка, які ляцяць па волі ветру.

У час разгляду рамантычных графічных аркушаў Уладзіміра, выкананых звычайным чорным алоўкам, гледача нібы абвалакаюць ціхія музычныя гукі, што нараджаюцца ад яго тонкіх алоўкавых нюансіровак: ад белага да шэрага, ад шэрага да цёмна-шэрага і далей да зусім чорнага, а потым з той жа паслядоўнасцю зноў да белага. Віртуознае валоданне тэхнікай алоўкавага рысунка пераводзіць яго "графічныя рысункі" ў раздзел "жывапісныя алоўкавыя малюнкі". І сапраўды У. Васюк стварыў сваімі апошнімі графічнымі аркушамі чорна-белы алоўкавы жывапіс. Гэтым вышэйшым майстэрствам сярод нямногіх мастакоў, якія

(Заканчэнне на 8-й стар.).

# ПОШУК ІСЦІНЫ ЦІ ШАЛЬМАВАННЕ?

(Пачатак на 1-й, 4-й стар.).

К. Каліноўскага не можа быць і размовы аб ім як беларускім нацыянальным дзеячы, што любым чынам імкнецца даказаць У. Казбярук.

Што ж новае сказаў ён пра "Пісьмо..."? А нічога. У артыкуле са спасылкай на даследаванне А. Смірнова канстатуецца сцвярджэнне А. Гілера аб тым, што "Пісьмо да мужыкоў зямлі Польскай" напісана самім Каліноўскім. Несумненна, што Гілер пры гэтым зыходзіў з загалоўка адозвы, у якім фігураваў псеўданім Каліноўскага "Яська-гаспадар з-пад Вільні". Контрдоказы Смірнова, на аснове якіх ён зрабіў адмоўнае заключэнне наконт аўтарства Каліноўскага, не разглядаюцца У. Казберуком, і такім чынам вывад Смірнова дэзавуіруецца.

Аналагічны падыход прадэманстраваны і ў адносінах да даследаванняў Г. Кісялёва. З ягонага артыкула "Здарэнне з Яськамгаспадаром" У. Казбярук прывёў фрагмент, у якім са спасылкай на публікацыю Д. Файнгаўза ў "Рочніку бялостоцкім" (1963 год) адзначана рукапісная праца гісторыка-бібліёграфа пачатку XX стагоддзя С. Пісарскага "Польскі перыядычны друк 1861—1864 гг." У гэтай працы пазначаны экземпляр "Пісьма..." з праўкамі нібыта самога Каліноўскага. Г. Кісялёў выказаў некалькі гіпатэтычных меркаванняў наконт верагоднасці сцвярджэння Пісарскага, якія і працытаваў У. Казбярук. А заключэнне даследчыка па гэтым эпізодзе замоўчаў! Вось яно: "Разам з тым нельга не адзначыць, што якраз адносна "Пісьма..." ў каталогу Пісарскага вялікая прыкрая блытаніна, ён падае "Пісьмо..." як перыёдык, які нібыта выходзіў нерэгулярна ў 1862 і 1864 гадах (якраз 1863 год, якім і трэба датаваць "Пісьмо...", чамусьці прапушчаны)... Так што Пісарскі, мабыць, уяўляў сабе беларускі друк перыяду паўстання гэтаксама ж цьмяна, як і яго цёзка і сучаснік Станіслаў Зялінскі... Мог памыліцца ён і ў вызначэнні почырку Каліноўскага на экземпляры, якім карыстаўся. Сёння такі паасобнік невядомы. Калі б мы мелі такі экзэмпляр і графалагічная экспертыза пацвердзіла б прыналежнасць почырку Каліноўскаму, гэта была б іншая размова" ("Полымя", 1994, № 6, с. 147—148). Не прывёўшы гэтага заключэння, У. Казбярук прадставіў пытанне аб аўтарстве К. Каліноўскага ў дачыненні да гэтага "Пісьма..." станоўча вырашаным. Ці можна прызнаць такое выкарыстанне даследаванняў карэктным у навуковых адносінах? Адказ напрошваецца адназначна адмоўны.

Вельмі шмат увагі (і месца) адвёў У. Казбярук пытанню аб пячатцы Нацыянальнага ўрада. Можна, здаецца, пагадзіцца з выказанымі ім меркаваннямі з заўвагай, што не варта перабольшваць яго значэнне. У сваім артыкуле "Нацыянальнае і аграрнае пытанне ў час паўстання 1863—1864 гг." я назваў факт наяўнасці адбітка пячаткі друкарні Нацыянальнага ўрада на "Пісьме..." толькі **"адным з фармальных доказаў"** таго, што не Каліноўскі быў яго аўтарам ("Беларускі гістарычны часопіс", 1993, № 3. С. 37). Галоўны доказ у тым, што прапольскія шавіністычныя заявы аўтара "Пісьма да мужыкоў зямлі Польскай" зусім не адпавядаюць ідэям і светапогляду К. Каліноўскага, адлюстраваным у "Мужыцкай праўдзе", "Пісьмах з-пад шыбеніцы", шэрагу загадаў і іншых дакументаў, якія зыходзілі ад яго. Гэта канстатавалі А. Станкевіч, К. Канкалеўскі, А. Смірноў, Г. Кісялёў, П. Урбан і іншыя даследчыкі. Але У. Казбярук і ў першым, і ў апошнім з сваіх артыкулаў не разглядае іх аргументацыю, фактычна ігнаруе яе.

Не зважае ён і на прынцыпова важныя сведчанні кіраўнікоў паўстання, віленскіх і варшаўскіх дзеячаў, якія добра ведалі яго асабіста, а таксама на кнігу паплечніка М. Мураўёва генерала В. Ратча, афіцыйнага гісторыёграфа падзей 1863—1864 гадоў у Літве — Беларусі, які карыстаўся многімі дакументамі следства, што не дайшлі да нас. Адным словам, У. Казбярук папярэйшаму ігнаруе тое, што разбурае яго канцэпцыю пра К. Каліноўскага як прапольскага дзеяча, далёкага ад інтарэсаў беларускага народа. У выніку фактычна знімаецца пытанне аб востраканфліктных узаемаадносінах Каліноўскага і Варшаўскага ЦНК (бо якія прынцыповыя канфлікты могуць быць у польскага нацыяналіста з нацыяналістычным польскім урадам?!).

Праўда, цалкам адмесці вядомыя факты У. Казбярук не можа. Таму выкарыстоўвае наступны ход-манеўр, які ніяк нельга прызнаць навуковым. "А тое, што канфлікты, — заяўляе ён, — **і сапраўды існавалі, то гэта нічога не даказвае. Вельмі вострых канфліктаў хапала і ў самім варшаўскім кіраўніцтве, дзе неаднаразова адбываліся такія змены, якія Ю. Пілсудскі называў "дзяржаўнымі пераваротамі"** (бачыце, у якую плоскасць пераведзены канфлікты беларуска-літоўскіх рэвалюцыйных дэмакратаў з кіраўнікамі паўстання — польскімі шляхецкімі рэвалюцыянерамі-нацыяналістамі?). Затым ідзе заключная фраза аўтара па гэтым пытанні, чыста дэкларатыўная: "Канфлікты тыя ніяк не былі абумоўлены адносінамі да нацыянальных праблем".

Памыляецеся, шаноўны Уладзімір Міхайлавіч! Вашу нічым не даказаную заяву абвяргаюць: лідэр літоўска-беларускіх "белых", пераемнік К. Каліноўскага на пасадзе кіраўніка Віленскага паўстанцкага цэнтра Я. Гейштар, сакратар Польскага нацыянальнага ўрада Ю. Яноўскі, а таксама сучаснікі падзей і вядомыя гісторыкі паляк В. Пшыбароўскі і расійскі генерал — манархіст В. Ратч. Выслухаем іх "паказанні" пра К. Каліноўскага.

**Я. Гейштар:** "Гэта была натура запальчывая, але справядлівая, без ніякага цэню крывадушнасці. Адданы душою і сэрцам народу, аднак прыхільнік крайніх рэвалюцыйных тэорый, які не спыняўся нават перад развязваннем грамадзянскай вайны і **думаў да таго ж аб самастойнасці Літвы** (падкрэслена мною. **— М. Б.**). Быў непаразуменне, узорным канспіратарам, душою Камітэта... Пры першым знаёмстве даказаў мне, што ўздзел шляхты і памешчыкаў у паўстанні не толькі не патрэбны, але і шкодны. Народ сам заваюе сабе свабоду і патрабуе ўласнасць у памешчыкаў" (гл.: К. Калиновский. Из печатного и рукописного наследия. Мн., 1988. С. 166—167).

**Ю. Яноўскі:** Каліноўскі "не хацеў мець ніякіх адносін да шляхты, а абапіраўся толькі на народ. Сувязь Літвы з Польшчаю разумеў толькі як федэральную з поўнай незалежнасцю Літвы. Не прызнаваў спаўна ўлады Цэнтральнага камітэта, не хацеў прымаць адтуль ніякіх загадаў ці даручэнняў. Гэтая пазіцыя Каліноўскага, якую не ўсе ў Камітэце (Літоўскім. **— М. Б.**) поўнасцю падзялялі, была повадам для непаразуменняў" (Там жа. С. 161).

**В. Пшыбароўскі,** адзначыўшы антышляхецкую пазіцыю Каліноўскага, даў наступную характарыстыку яго поглядаў па нацыянальным пытанні: "Больш важнай ад гэтых тэорый, якія тлумачацца маладосцю і пецярбургскім выхаваннем, дзе на глебе дэспатызму лягчэй за ўсё нараджаліся радыкальныя і крайнія ідэі, была іншая тэорыя Каліноўскага, пачэрпнутая з "Колокола". Як вядома, палітычная праграма Герцэна грунтавалася на тым, што ў будучым славянскія землі, пазбавіўшыся дэспатычных паноў і чужога ярма, павінны ўтварыць федэрацыю незалежных дзяржаў, якія маглі б, жывучы па суседству, у ідылічнай згодзе, развіваць усе свае нацыянальныя асаблівасці. Дык вось, **Каліноўскі гэтую тэорыю, ва ўсёй яе паўнаце, стасаваў да Літвы. Паводле яго, Літва павінна разам з Польшчай дабівацца незалежнасці, змагацца за пазбаўленне ад чужога захопніка, але складаць асобную адзінку, зусім незалежную ад Польшчы і звязаную з ёю толькі федэратыўнымі повязямі. Згодна з гэтай тэорыяй, ён, уваходзячы ў Літоўскі камітэт, не хацеў прымаць ніякіх загадаў з Варшавы, а хацеў, каб гэты камітэт распараджаўся і кіраваў паўстаннем самастойна і ў адносінах да Нацыянальнага ўрада займаў становішча ўлады роўнай і нікому не падначаленай"** (цыт. па: Кісялёў Г. Каліноўскі знаёмы і незнаёмы. Полымя. 1993. № 6. С. 224. (Падкрэслена мною. **— М. Б.**).

**В. Ратч:** "Канстанцін Каліноўскі... быў чысцейшым прадуктам камуністычнай літаратуры... **з усімі федэратыўнымі мроямі (брэднямі) "Колокола". Ён разумеў... што "такой бесталковай мазгаўні, як Варшава, нельга даваць будучы лёс Літвы..."** настойліва праводзіў **ідэю аб самастойнасці Літвы... Цэнтральны камітэт патрабаваў безумоўнага падпарадкавання Літвы, Каліноўскі патрабаваў права літвінам самім сабою распараджацца"** (Сведения о польском мятеже 1863 г. в Северо-Западной России. Собрал Василий Ратч. Т. І. Вильна, 1867. С. 181, 184, 186). (Падкрэслена мною. **— М. Б.**).

Як бачым, характарыстыкі К. Каліноўскага, дадзеныя рознымі людзьмі з розным светапоглядам, супадаюць па ўсіх параметрах. Адзначым, што гэтыя людзі не мелі абсалютна ніякіх матываў для нейкай фальсіфікацыі поглядаў Каліноўскага. Таму іх сведчанні заслугоўваюць поўнага даверу. У. Казбярук ведае гэтыя матэрыялы, аднак упарта ігнаруе.

Міхась БІЧ.

(Заканчэнне будзе).

# ВАСЮКІ

(Заканчэнне. Пачатак на 7-й стар.).

бездакорна валодаюць тэхнікай алоўкавага рысунка — Я. Кулік, Р. Сітніца і інш. — Уладзімір Васюк вылучаецца ўласнай удасканаленай ім тэхнікай, пры дапамозе якой яму ўдалося стварыць такія па-філасофску асэнсаваныя і жывапісна прывабныя графічныя кампазіцыі, як ужо згаданыя, а таксама намаляваныя ў 1977 годзе аркушы "Світанак", "Самота", "Вымярэнне", "Зацьменне". Да 1995 года У. Васюк быў выдатным плакатыстам, займаўся кніжнай, рэкламнай і афішнай графікай, выяўленчая мова якіх адпавядала традыцыйным паняццям пра магчымасці розных відаў графікі. Стварэнне сучаснай уласнай графічнай стылістыкі мастак распачаў у 1995 годзе серыяй аркушаў пад назвай "Прывіды маёй малой радзімы", у якой выразна праступаюць боль і ўзрушанасць мастака ад жахлівых вынікаў чарнобыльскага атамнага выбуху, што ўжо адбіліся на флоры і фауне яго роднага Хойніцкага раёна. У гэтых самотных, але па-мастацку рафініраваных кампазіцыях мы бачым раслінных і жывёльных мутантаў: пачварных чарвякоў, што нагадваюць птушак з крыламі на тонкіх цыбатых нагах ("За ваколіцай"), моцна скручаны з калючых, нібы кактусападобных ці цярновых, раслін (характэрных для паўднёвых абшараў) сімвалічны вянок, праз вобраз якога параўноўваюцца нашы пакуты з Хрыстовымі, нагадваючы нам, што "Христос терпел и нам велел". Да гэтай жа тэмы прымыкаюць кампазіцыі "Палын" і "Цёмны дзень і чорны год", прысвечаныя 10-годдзю чарнобыльскай катастрофы. У гэтай кампазіцыі мастак асэнсоўвае маштабы разбуральнага працэсу ад чарнобыльскага атамнага выбуху.



Да асобнай стылёвай групы (тэхналагічна больш характэрнай для традыцыйных графічных тэхнік) я б аднесла аркушы 1996 года "Нараджэнне лініі", "Маладзік", "Поўня", "Ладдзя роспачы", а таксама"Цішыня", для якіх характэрнае сімвалічна-філасофскае ўспрыманне вядомых з'яў. Іх змест кожны можа расшыфраваць па-свойму. Іх стылістыка блізкая да сучасных мастацкіх напрамкаў у галіне фарматворчасці.

Увогуле вялікую ролю ва ўсіх графічных аркушах У. Васюка адыгрываюць яго белыя туманы і белыя аблокі, праз іх ён адлюстроўвае святло, сусвет, Беларусь і свае адносіны да іх. Ён так віртуозна іх піша, што творы набываюць пэўную вытанчанасць і рамантычнасць.

Своеасаблівы маcток да тэматыкі твораў Тамары Васюк Уладзімір праклаў праз графічны аркуш "Стадолы", у якім ёміста адлюстраваў паганскае мінулае Беларусі, якое знітавалася ў X стагоддзі з новай рэлігіяй — хрысціянствам. Унізе аркуша ён размясціў побач выявы драўляных і каменных ідалаў і хрысціянскіх крыжоў. Тамара ж сваімі скульптурамі адлюстравала пазнейшую гісторыю Беларусі праз вобразы яе слынных асоб.

Першай ёю ўспамінаецца постаць полацкай князёўны Рагнеды, якая ў X стагоддзі была ў ліку першых хрысціянскіх манашак Беларусі, жаночы лёс якой быў жахлівы. Спачатку Т. Васюк адлюстравала князёўну ў бюсце "Рагнеда" (1994), падкрэсліўшы не толькі вобраз пяшчотнай жанчыны, якая нібы ўглядаецца ў будучыню і нават бачыць яе, але і этнічную прыналежнасць князёўны да крывічоў праз намітку на галаве і пэўнай формы падвескі, нашытыя паверх намітні (такое ўбранне галавы крывічанкі падаюць археолагі). Ужо ў гэтай рабоце мастак знаходзіць прыём (выбірае зрэнку вока на пэўную глыбіню, што стварае неабходны ёй цень), які дазваляе надаць мадэлі пэўную псіхалагічную характарыстыку. У 1996 годзе Тамара зноў вяртаецца да вобраза Рагнеды, але стварае яе постаць у поўны рост. У высокай стромкай постаці Рагнеды мастачка падкрэслівае не толькі яе прыгожы твар, але і княжацкае паходжанне праз карону паверх намітні на мужна прыўзнятай галаве (прыём прыўзнятасці галавы падкрэслены) і характар непакорнай жанчыны, якая ўсёй постаццю падкрэслівае сваю рашучасць вытрымаць усе пакуты, наканаваныя ёй лёсам.

Інакш Тамара рашае вобраз полацкай князёўны XII стагоддзя Еўфрасінні, якая сталася асветніцай, мецэнаткай і пазней нават была прылічана да святых. У працы 1996 года "Еўфрасіння Полацкая" акцэнтуецца рэлігійны і мецэнацкі напрамак дзейнасці князёўны. Мастачка падкрэслівае прыгожы дзявочы твар, звернуты да неба задуменны позірк, нібы ў час малення да Бога, зроблены па яе замове крыж, які Еўфрасіння трымае ў правай руцэ, і кветку лілею — у левай. Манаская дзейнасць князёўны падкрэслена пэўным пакрыццём галавы. А ў 1997 годзе Т. Васюк стварае бюст "Еўфрасіння Полацкая", дзе падае яе вобраз у выглядзе святой: з німбам вакол галавы, пакрытай, як у Маці Божай, мафорыем (вялікай хусткай), і згаданым крыжам, які падтрымліваецца на ўзроўні грудзей. Каб надаць характэрны для мадэлі стан пакутніцтва, Тамара падкрэслівае дакладнай дробнарэльефнай пластыкай вялікія міндалепадобныя вочы і глыбока ўціснутыя зрэнкі, цені якіх і ствараюць гэтае ўражанне.

Звярнулася Тамара і да вобраза Маці Божай, стварыўшы бюст "Марыя" па заходнееўрапейскаму ўзору Дзевы Марыі з каронай на галаве паверх мафорыя. Псіхалагічная характарыстыка мадэлі тут спакойная, пяшчотная, ледзь прыкметная ўсмешка на вуснах, зрэнкі цалкам адсутнічаюць (як у старажытных скульптурах, толькі абрысы вачэй), галава ледзь нахілена ўлева.

Каб стварыць бюст праўнука Рагнеды князя XI стагоддзя Усяслава Брачыславіча па мянушцы Чарадзей, Т. Васюк улічыла ўсе археалагічныя і літаратурныя крыніцы, гістарычныя факты і легенды. Згодна з апошнімі гэты князь мог пераўтварацца ў шэрага ваўка, яснага сокала ці залатарогага тура. Мастачка стварыла вобраз князя мужнага, кемлівага і ўсмешлівага, дакладна выпеліўшы ўсе этнічныя прыкметы адзення і княжацкай улады: шаломападобны галаўны ўбор, у правай руцэ жэзл з галавой ваўка, як намёк на яго чарадзейства.

Шэраг скульптур прысвечаны роду вядомых у Беларусі князёў Радзівілаў. У 1995 годзе яна стварае бюсты "Радзівіл Чорны" (заснавальнік друкарні ў Брэсце, XVI стагоддзе) і "Барбара Радзівіл" пад уздзеяннем жывапісных або гравюрных партрэтаў і біяграфічных звестак. Вядома, што Барбару называюць беларускай Джульетай, таму што яна вельмі кахала свайго мужа, але неўзабаве пасля шлюбу была атручана свякрухай.

У самым пачатку гэтай серыі мастачка стварае манументальна-велічную скульптурную постаць "Сялянка", у якой падае абагульнены вобраз маладой беларускай сялянкі, падкрэсліваючы яе этнічную прыналежнасць праз святочнае нацыянальнае адзенне, галаўны ўбор (кіндача паверх намітні), манеру трымаць у руках насовачку і кветкі. Уся постаць нахілена наперад, насустрач гледачу. Такое размяшчэнне постаці ў прасторы стварае ўражанне імклівага руху.

Да гэтага вобраза набліжаецца скульптурны бюст "Цётка" — партрэт беларускай паэтэсы, змагаркі за незалежную Беларусь. Тамара Васюк паказвае яе як рашучую, мужную і ўпэўненую маладую жанчыну. І дасягае яна гэтага праз пэўны паварот узнятай галавы, пакрытай вянком, акруглую форму твару з выразна выпеленымі сціснутымі вуснамі і нізкамі пацерак вакол шыі, такім характэрным убраннем беларускіх жанчын у XIX стагоддзі.

Увогуле неабходна падкрэсліць, што скульптурныя партрэты Т. Васюк сведчаць аб новых дасягненнях мастачкі ў галіне керамічнай пластыкі, што яна сфарміравалася як скульптар. І каб здзейсніць сваю партрэтную галерэю ў такім матэрыяле, як шамот, Тамара распрацавала ўласны склад шамоту больш мяккага і прыдатнага для стварэння дробнага рэльефу, каб мець магчымасць мадэляваць такія дробныя пластычныя дэталі, як павекі, вусны, нос, зрэнкі, арнаменты на адзенні і г. д. Цяпер у Т. Васюк ёсць усе магчымасці працаваць у галіне скульптурнага партрэта.

**Мая ЯНІЦКАЯ.**

**НА ЗДЫМКАХ: работы Тамары ВАСЮК.**



*НОВЫ ПРАЕКТ «НН»*

## НАРОДНАЯ КНІГА. ВАСІЛЬ БЫКАЎ «СЦЯНА»

Пасля неаднаразовых прапаноў нашых чытачоў і з ласкавае згоды народнага пісьменніка Беларусі Васіля Быкава выдавецтва "Наша ніва" прыступае да выдання новай кнігі прозы В. Быкава "Сцяна".

Кніга "Сцяна" складаецца з празаічных твораў Васіля Быкава апошніх гадоў.

Беларуская гісторыя XX стагоддзя стварыла нямала сітуацый, калі характары розных людзей па-рознаму выяўляліся на мяжы жыцця і смерці. Слуцкае антыбальшавіцкае паўстанне, Курапаты, другая сусветная вайна, "хрушчоўская" адліга, перасілед з боку КДБ у застойныя часы. Адпаведна рознымі былі і паводзіны міжвольных удзельнікаў гэтай гісторыі, ад якіх, па вялікім рахунку, не залежала нічога. Яны, фатальна абложаныя таталітарнай сістэмай, маглі толькі захаваць або не захаваць сваю чалавечую годнасць. Але ніякім чынам яны не маглі паўплываць на свой прадвызначаны статус — ахвяр чырвонага або карычневага малаха, якія працяў кожнага з іх наскрозь — іхні розум і іхнюю кроў.

Васіль Быкаў у новай кнізе прозы паказвае, наколькі немагчыма, але наколькі важна на самых фатальных этапах гісторыі захоўваць чалавечнасць, прыстойнасць, годнасць. Псіхалагічныя сітуацыі ў крытычных абставінах становяцца напружанымі сюжэтамі, а дакладныя характарыстыкі самых розных чалавечых тыпаў змушаюць чытача ўвесь час адчуваць уласную прысутнасць сярод быкаўскіх персанажаў і рабіць свой маральны выбар.

Кніга Васіля Быкава "Сцяна" выйдзе ў свет сёлета. Выдавецтва "Наша ніва" прымае папярэднія замовы на кнігу.

Нагадаем, што той, хто замаўляе кнігі "НН" да іх выхаду ў свет, аплачвае толькі сабекошт і кошт перасылкі, тады як гатовая кніга з гандлёвымі нацэнкамі будзе каштаваць значна даражэй.

Каб замовіць новую кнігу прозы Васіля Быкава "Сцяна", трэба 68 000 беларускіх рублёў (кошт выдання) + 20 000 (паштовыя выдаткі) пералічыць на рахунак: **БГФ "Наша ніва", р/р 3015201930039, філіял "Гарант", АКБ "Поіск", г. Мінск, код 987.**

Не забудзьцеся на паштовай квітанцыі ў сектары "Для пісьмовага паведамлення" ўказаць назву кнігі, ваш дакладны паштовы адрас і, калі ёсць, тэлефон.

**"Наша ніва".**

Рэдактар
Вацлаў МАЦКЕВІЧ

ЗАСНАВАЛЬНІКІ:
Дзяржаўны камітэт па справах рэлігій і нацыянальнасцей Рэспублікі Беларусь;
Беларускае таварыства дружбы і культурнай сувязі з зарубежнымі краінамі;
Беларускае таварыства па сувязях з суайчыннікамі за рубяжом (таварыства "Радзіма").



НАШ АДРАС:
220005, Мінск, праспект Ф. Скарыны, 44.

Тэлефоны: 213-31-97, 213-32-80, 213-30-15, 233-16-56, 213-37-82.

Пазіцыя рэдакцыі і аўтараў, матэрыялы якіх друкуюцца на старонках "Голасу Радзімы", не заўсёды супадаюць.

Газета набрана, звярстана і аддрукавана ў друкарні "Беларускі Дом друку". (220041, г. Мінск, пр. Скарыны, 77).
Тыраж 3 000 экз. Індэкс 63854. Зак. 1742.
Падпісана да друку 8.12.1997 г. у 12.00.
Рэгістрацыйнае пасведчанне № 81.